# УРАГАН-97 пракладваў свой *шлях* там, дзе яму МЯКЧЭЙ "ПАДАСЛАЛІ"?

**Калі здараюцца прыродныя стыхіі накшталт чэрвеньскага ўрагана, чалавек міжволі ўціскае галаву ў плечы і пачынае задумвацца: а ці не гнеў гэта Божы за ганьбаванне зямлі, за ўсе нашы грахі перад прыродай? Быў жа сваты наказ...** ст. 6–7



## Пад знакам "высокай радыяцыі"

Белавежскі зубр апаноўвае Беларусь: спробаю выжывання від вучоныя тлумачаць і ягонае перасяленне на чарнобыльскія аграцэнозы, **ст. 5**

## *Алені равуць, жоўтае лісце падае долу*

*Белавежская пушча. Восень.* ***Гэтай часінай стары пракаветны лес можа здацца адным з найцудоўных куткоў Сусвету... Аднак, пакуль замежныя эксперты рыхтуюць чарговы дыферамб пра сусветную каштоўнасць беларускай зялёнай жамчужыны, нашы чытачы абмяркоўваюць артыкул Ул. Дацкевіча "Падзенне Белавежскай пушчы".***

***ст.4***

*З любоўю да ўлоння*

# БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА

*1997 №4 (7)*

Беларуская прыродалюбная асветна-публіцыстычная газета

Двухмесячнік

## ГАРОТНЫ ЛЁС НАЦЫЯНАЛЬНАЙ РЭЛІКВІІ

*На крыжы быў змешчаны заклён, які асцерагаў ад страшнае кары таго, хто насмеліцца скрасці альбо прадаць святыню:* **"І хай напаткае яго доля Юды..."** *Тым часам дзесяткі гадоў як святыня згубіла свой след.*

**Ст.2-3**

## *Падлесак пад кронамі*

*Колькі лірычных радкоў са школьных сачыненняў*

***"Вечная дарагая Бацькаўшчына, як ты жывеш?" – пытаюся я.***
***І чую ў адказ працяжны стогн – стогн зямлі,***
***цяжкі ўздых яе нетраў,***
***кліч аб ратунку.***
***Гэты кліч мацней і мацней.***
***Людзі ўжо спахапіліся –***
***пачалі дапамагаць роднай прыродзе.***

*Іна Лаўрынюк, 6 клас.*

*працяг на* ***ст. 4***

## "Будзь здаровы, як дуб скарбовы"

*з беларускіх зычэнняў,*

**ст. 16**




*Газета выдаецца па ініцыятыве інфармацыйнага зялёнага агенцтва "Неруш-прэс", падпісны індэкс 63267*

*Заснавальнік і рэдактар Валерый Дранчук*

*Для кантактаў: 220088 Мінск, вул. Іванаўская. 38-16*
*Тэл. (0172) 236-50-76*

*The founder and Editor-in-chief Valery Dranchuk*
*Contact: Ivanovskaya St. 38-16*
*220088 Minsk Belarus*




## Лебедзі вам ляцяць!

Напрыканцы лета шчасцем занесла мяне ў Лыскава — аддаленае мястэчка ў Пружанскім раёне. Там каля сценаў разбуранага касцёла я спаткаўся з настаўніцай фізікі мясцовай школы Галінай Міхайлаўнай Папко. Пра нашу газету яна не чула. Але горача зацікавілася і прызналася, што сама ёсць вялікай аматаркаю ўсяго жывога на гэтай зямлі, любіць родную вёску, асабліва ваду са свайго калодзежа. Калі бывае ў горадзе, спяшаецца хутчэй дадому, каб напіцца вады са студні.

Мяне зачараваў выпадак, пра які ў часе нашай сустрэчы распавяла Галіна Міхайлаўна. Паслухаем яе кароткі маналог:

*"Неяк па зіме на нашу рачулку – прыток Ясельды — прыляцела чародка лебедзяў. Падзея на ўсё мястэчка! Гамонка, здзіўленне, радасць. Усё навокал ператварылася ў казку. Дзеці былі ўзрушаныя і шчаслівыя, складваліся на хлеб і пасля ўрокаў хадзілі на рэчку карміць птахаў. Я тады вяла яшчэ матэматыку. Прагаманілі ўвесь урок. Клопат жа – каб не пагінулі лебедзі, бо нечакана захаладала. Думаю, матэматыку нагонім, як лебедзі паляцяць. І праўда, праз дзень яны паляцелі – відаць, прысталі ў дарозе, ці можа, іх прывабілі нашы мясціны, што захацелася тут прыпыніцца.*

"Тая хвіліна, калі я слухаў гэтую гісторыю, была радаснаю і светлаю. Вясковыя дзеці... Школа, рачулка... Птахі ў вясновым небе... Быццам з чароўных кавалачкаў-малюнкаў складваўся ў маім уяўленні адметны непаўторны краявід Бацькаўшчыны... І ўсплылі высокія словы беларускага традыцыйнага зычэння : *"Лебедзі вам ляцяць!"*

Гэтыя словы зазвычай кажуцца людзям рамесных штукарстваў, калі застаюць іх за іхнім заняткам, калі шчыруе душа. Я ж адрасую гэтыя словы ўсім, хто прыйшоў у класы і сеў за парты, хто вучыцца не толькі пісаць і рашаць, але — апекавацца роднай прыродай, шанаваць яе скарбы і наш адзіны беларускі дом. Няхай жыве з намі казка. Лебедзі вам ляцяць, настаўнікі і вучні Беларусі!



**Валерый Дранчук**

# Вяртанне народу ягонай славутай рэлікіі

**“Адноўлена беларуская святыня – крыж святой Еўфрасінні Полацкай”,– пад такім загалоўкам газета “Царква” змясціла артыкул з нагоды ўрачыстага асвячэння копіі крыжа ў Свята-Сімяонаўскім саборы Брэста 24 жніўня 1997 года.**

*Ігар Бараноўскі*

Вялікае мноства вернікаў сабралася, каб у глыбокай пашане схіліцца перад гэтай нацыянальнай рэліквіяй. Урачыстую літургію з нагоды асвячэння і першага пакланення адноўленаму крыжу святой Еўфрасінні адпраўляў Патрыяршы Экзарх усей Беларусі, мітрапаліт Менскі і Слуцкі Філарэт. Пасля літургіі ўсе вернікі мелі магчымасць прыкласціся да святыні. Тры гадзіны да крыжа бясконцым патокам ішлі вернікі – гараджане і прыезджыя, маленькія дзеткі і хворыя людзі, якіх вялі блізкія.

Пасля асвячэння ў Берасці крыж дастаўлены ў Менск, дзе будзе знаходзіцца да канца верасня. А 27 верасня, на свята Ўзвышэння Крыжа Гасподняга (паводле юльянскага календару), крыж святой Еўфрасінні будзе ўрачыста ўнесены ў храм Спаса ў Полацку, дзе ён і павінен знаходзіцца паводле волі заступніцы беларускага народу Еўфрасінні Полацкай.

Праца па аднаўленні нацыянальнай святыні, распачатая па ініцыятыве Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”, у свой час атрымала фінансавую падтрымку з боку асобных беларускіх прадпрымальнікаў, а потым была ўзята пад апеку Расейскай праваслаўнай Царквы.

Пяць гадоў давялося берасьцейскаму майстру-эмальеру Міколу Кузьмічу працаваць над стварэннем дакладнай копіі крыжа, загадкавае знікненне якога з Беларусі перад фашысцкай акупацыяй краіны шмат хто лічыць прычынай



духоўнага заняпаду і ўсіх іншых бедаў нашага народу. Каб выканаць гэтую складаную ювелірную працу, мастаку давялося азнаёміцца з усёй літаратурай пра крыж святой Еўфрасінні, дасканальна вывучыць усе фотаздымкі і апісанні крыжа. Такую працу нельга было выканаць без асаблівага духоўнага натхнення, веры ў адраджэнне свайго народу. Таму Мікола Кузьміч, калі з'явілася магчымасць, здзейсніў паломніцтва ў Святую Зямлю да Гроба Гасподняга.

Як вядома, славуты крыж, дакладную копію якога стварыў Мікола Кузьміч, быў зроблены полацкім майстрам Лазарам Богшам на заказ князёўны-ігуменні Еўфрасінні Полацкай у 1161 годзе. Як і згубленая рэліквія XI стагоддзя, ягоная сучасная копія зроблена з кіпарысавага дрэва, пакрыта залатымі пласцінкамі, якія аздоблены каштоўнымі каменнямі, арнамента-льнымі кампазіцыямі з дваццаццю абразкамі з выявамі святых. У сярэдзіне крыжа знаходзіліся каштоўныя хрысціянскія рэліквіі: кроплі крыві Ісуса Хрыста, кавалачак Кры-жа Гасподняга, драбок каменя ад дамавіны Багародзіцы, час-ткі мошчаў святых Стэфана і Панцялеймана ды кроў святога Дзмітрыя.

На крыжы быў змешчаны заклён, які абяцаў страшную кару таму, хто скрадзе або аддасць ці прадасць святыню: *“І хай не выносяць яго з манастыра ніколі, і не прадаюць, і не аддаюць. Калі ж не паслухаецца хто і вынясе з манастыра, хай не дапаможа яму святы крыж ніколі ў жыцці гэтым, ні ў будучым, хай праклятты будзе ён святой жыватворчаю Тройцаю ды святымі айцамі... і хай напаткае яго доля Юды, які прадаў Хрыста. Хто ж насмеліцца учыніць такое... валадар або князь, або біскуп ці ігумення, або іншы які чалавек, хай будзе на ім гэты праклён”.*

Аднак для некаторых уладароў жаданне займець гэтую святыню было вельмі моцным нават не зважаючы на заклён. Ужо на мяжы XII-XIII стагоддзяў крыж Лазара Богшы вывезлі з Полацка смаленскія князі, у якіх ён захоўваўся да 1514 году. У тым годзе Смаленск захапілі войскі маскоўскага князя Васіля III і крыж трапіў у Маскву.

У 1563 годзе цар Іван Жахлівы пайшоў вайной на Літву і перад самай аблогай Полацка загадаў



Фота: Неруш-прэс

*“не шанавалі, не ўратавалі...” — з жалем ды скрухаю мусіш сказаць пры-канцы стагоддзя, гледзячы на рэшткі скрыўджаных бажніц, замкаў, вєкапомных муроў. На ходкія воклічы “А мы тут прычым?!” ёсць адзін адказ: “Яшчэ як прычым! Бо гэта наша зямля. Бо мы народ, нацыя беларусаў”.*

## Малітва за Беларускі Народ

Сусветны Валадару, Прадвечны Божа, ты ўвесь сусвет стварыў і законы для ўсяго ўстанавіў, кожнаму мейсца і мэту назначыў, а людзкі род так бясконца палюбіў, што Сына Свайго Адзінароднага паслаў на зямлю, каб усе, слухаючы Яго навуку ды йдучы Яго слядамі, увайшлі ў Тваё Нябеснае Валадарства. Мы, дзеці Беларускага Народу, як маглі слухаліся Тваіх загадаў, але з слабасці чалавечае часта падалі і зневажалі Цябе сваімі грахамі. Цяпер молім Цябе шчыра: даруй нам нашы грэшныя правіны, Нашу нядбайлівасць у адносінах да сябе саміх і іншых; даруй так жа тым, хто нас крыўдзіў і зневажаў. Молім Цябе шчыра, барані нас ад крыўды варожай і дай нам ды ворагам нашым шчодраю Тваёй рукою, духа сапраўднае хрысціянскае любові. Дай нам еднасць у веры, згоду ў сямейным і грамадзкім ды палітычным жыцці. Загаі нашы асабістыя і ўсенародныя раны душы, якія мы самі сабе спрычынілі або ад непрыяцелеў атрымалі. У нашым штодзённым жыцці, у змаганнях і спакусах, асвяці наш розум Тваім евангельскім святлом, каб мы, захоўваючы Твае прыказанні, перамаглі ўсе цяжкасці і цярпенні ды заўсёды Цябе багаславілі. Пашлі Беларускаму Народу святых і вялікіх слугаў сваіх, якія праведным, чэсным і мудрым жыццём і дзейнасцю вялі б Народ да лепшае долі. Дай нам святое духавенства. Багаславі нашы сем'і, каб у кожнай з іх дбалы бацька і ахвярная маці, злучаныя шчыраю святою любоўю, выхоўвалі Табе на славу, а Бацькаўшчыне на карысць сваіх дзетак. Асаблівую ласку дай нашай моладзі, каб яна атрымала глыбокае хрысціянскае ўзгадаванне, і ўзрасла на карысных сыноў і дачок свайго народу.

Багаславі так жа нашы дачасныя дастаткі, ня дай гінуць марна тым талентам, якія Ты ссылаеш у наш народ, але дай ім свабодна развівацца і закрасаваць Табе на славу, а ўсяму людству на карысць. Багаславі працам сялянства на раллі, працоўным у фабрыках, вучоным ва ўсіх галінах навукі, мастацтва і тэхнікі, каб за іх помаччу Беларускі Народ мог разумна і прыгожа жыць ды развівацца.

Цябе, Прачыстая Багародзіца і наша нябесная Маці, просім: прычыніся за намі, а Ты святая Еўфрасіння Полацкая – патронка Беларусі – ды ўсе святыя заступнікі Беларускага Народу, апякуйцеся намі, каб мы сталіся народам святым, выконваючы Волю Божую і сваё пасланства, каб прычыніліся да агульнага дабра тут на зямлі, а ў прышлым жыцці атрымалі вечнае шчасце, і Табе, прадвечнаму Валадару, прыносілі славу, чэсць і паклон на векі вечныя. Амін.

*Божым шляхам. Малітоўнік для беларусаў. Рым, 1946.*

**Хочацца верыць у тое, што вяртанне святыні дапаможа беларусам годна перажыць усе нягоды, вярнуць зганьбаваныя каштоўнасці, акрыць цагалелае ўлонне прыроды ад глуму і здзерства.**

вярнуць святыню на ранейшае месца ў царкву Спаса. Аднак палачане не здаліся на міласць захопніка, і тады Іван Жахлівы загадаў знішчыць усё іншавернае насельніцтва. 11 060 сялян, якія схаваліся ад ворага ў полацкім замку, цар раздаў сваім баярам, 50 000 мяшчанаў і шляхты былі адпраўлены ў маскоўскі палон. Тыя, хто адмовіўся служыць маскоўскаму ўладару, разам з жонкамі і дзецьмі доўга сядзелі ў турмах у кайданах. А 665 палонных па загадзе Івана Жахлівага былі забітыя.

У 1579 годзе беларусы адвавалі старажытны Полацк. Аднак неўзабаве, паводле загаду караля Рэчы Паспалітай, царква Спаса, дзе знаходзіўся крыж-святыня, была перададзена ордэну езуітаў. З гэтага часу найкаштоўнейшую рэлікію беларускага народу захоўвалі ў храме-святыні Беларусі – у старажытнай полацкай Сафіі. У 1596 годзе была падпісана Берасцейская царкоўная Унія. Пераважная большасць беларускага насельніцтва да гвалтоўнага скасавання уніі ў 1839 годзе была уніятамі. На працягу 243 гадоў нашыя продкі-уніяты пільна ахоўвалі і глыбока шанавалі крыж-святыню, што было не так проста ў тыя цяжкія для нашай Бацькаўшчыны часы. Магнаты і шляхта масава пакідалі свой родны ўсходні абрад і пераходзілі на лацінскі. Разумеючы вялікую каштоўнасць для вернікаў крыжа святой Еўфрасінні, на яго пачалі прэтэндаваць езуіты, бо ім тады належаў Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр. Айцы-езуіты спасылаліся на надпіс, што быў зроблены на крыжы, аднак гэта не дапамагло ім выйграць справу ў судзе, і крыж застаўся у св. Сафіі. Быў у гісторыі выпадак, калі крыж-святыню спрабавалі нават выкрасці, падклаўшы падробку, але вернікі-уніяты хутка заўважылі падмену і адабралі крыж у выкрадальніка. А ў 1812 годзе, калі Полацк акупавалі войскі Напалеона, каб схаваць крыж ад рабаўнікоў, уніятам давялося замураваць святыню ў нішу сцяны Сафійскага сабору.

Пасля скасавання царскімі ўладамі Уніі крыж на нейкі час трапіў у Маскву, а затым у Пецярбург, дзе рэлікію аглядаў цар Мікалай І. Існавала небяспека, што крыж-святыня можа застацца там назаўжды, як гэта сталася з іншымі каштоўнасцямі беларускага народу. Аднак ахоўны надпіс-заклён, напэўна, дапамог на гэты раз вярнуць святыню на сваё месца ў полацкі храм Спаса. 23 траўня (паводле старога стылю) 1841 года ўрачыстым хросным ходам крыж святой Еўфрасінні перанеслі з Сафійскага сабору і паклалі ў келлі, дзе наша заступніца пражыла свае апошнія гады.

У савецкія часы бальшавікі распачалі наступ на рэлігію, ў 1921 годзе ОГПУ рэквізавала крыж-святыню, ён трапіў у полацкі фінаддзел. Толькі дзякуючы намаганням вядомага беларускага дзеяча Вацлава Ластоўскага, ён быў адшуканы і забраны адтуль у Менск, у Беларускі дзяржаўны музей. Дзеля ўмацавання свайго рэжыму бальшавікі ўвесь час употай ад народу распрадавалі нацыянальныя каштоўнасці на Захад. Крыж ледзь не напаткаў такі самы лёс. З канца 20-х гадоў бальшавікі, маючы страх перад Захадам, вырашылі перанесці сталіцу Беларусі ў Магілёў. І хоць гэты горад сталіцай так і не паспеў стаць, крыж з 1929 года і да канца чэрвеня1941 года знаходзіўся ўжо ў музеі Магілёва. Далейшы лёс яго так і застаецца пакуль таямніцай. Крыж-святыню шукаюць праз Інтэрпол як на Захадзе, так і на Усходзе.

Сённяшняе вяртанне вернікам крыжа святой Еўфрасінні Полацкай, няхай усяго толькі яго дакладнай копіі, ёсць сапраўдная вялікая радасць і шчасце для беларусаў, як праваслаўных, так і грэка-каталікаў ды рыма-каталікаў, якія ў аднолькавай ступені маюць права лічыць яго сваёй святыняй. Магчыма, вяртанне гэтай святыні дапаможа беларусам годна перажыць усе нягоды і адрадзіць веру.


SUMMARY

*The cross of Evfrosinya the Polotskaya which is one of the fateful relics and objects of worship of the Byelorussian people has returned to the ancient Polotsk in the form of manufactured duplicate.*

*It was made in the time of the saint in order to establish peace and mutual understanding between principalities which were at enmity with each other.*

*Since 1941 the fate of the cross was wrapped in a shroud of mistery. Today reconstruction of this sacred thing means the faith in the best future of Belarus and in revival and stability of the nation, p.2-3*


## Дзеці і храмы





**Верыць у Беларусь**

**Думаць пра Беларусь**

**Шанаваць Беларусь**

Фота: Аляксандр Гутоўскі, Валерый Дранчук

 

# ТУТ HERE

**Векавыя дрэвы Белавежскай пушчы запісалі ў свае "дзённікі" шмат цікавага, нават на падзеі Чарнобыля маюць свой пункт гледзішча.**

*"Падзенне Белавежскай пушчы" – пад такой назвай былі пададзеныя думкі Уладзіміра Дацкевіча, аднаго са старэйшых навуковых супрацоўнікаў прыроднай лабараторыі запаведніка. Публікацыю заўважылі шматлікія чытачы. Мы ўдзячныя тым, хто даслаў свой водгук да рэдакцыі і падтрымаў намеры газеты ўголас гаварыць праўду пра Белавежскую пушчу.*



## Гісторыя паўтараецца. Непаўторная сама Пушча

**Віктар Бахараў,**
*дацэнт Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Я. Купалы, кандыдат біялагічных навук*

**З** затоеным хваляваннем прачытаў меркаванні Ул. Дацкевіча пра стан і лёс Белавежскай пушчы. Несумненна, ёсць фарбы загушчаныя. Гэта погляд аднаго чалавека. Але якога чалавека! Я меў шчасце пяць гадоў (1980-1986) працаваць разам з ім; часам перахоплівала ў горле, калі чытаў і ў тэксце спатыкаў такія знаёмыя інтанацыі нашага Афанасьевіча. Скрозь іх успомніў і тыя праблемы, якія шматразова ўзнімаліся ў той час на нашых вучоных нарадах.

Былі шматлікія лісты ў Кіраўніцтва Справамі Савета Міністраў з мноствам подпісаў супраць меліярацыі ў Пушчы (!). І паездкі некаторых зняверaных вучоных у Мінск на прыём (прыкладам, Т. Маньковай). Прыпамінаецца, як даволі актыўную пазіцыю па шмат якіх вострых пытаннях Пушчы займаў акадэмік Л. Сушчэня, член-карэспандэнт М. Пікулік. Не буду казаць пра зламаныя лёсы асобных людзей Пушчы — гэта іншая тэма.

І што ў рэшце рэшт?

Цяперашнім летам я наведаўся ў Белавежскую пушчу і ўбачыў, што гісторыя паўтараецца. Таму і вырашыў выказацца, маючы такі-сякі папярэдні горкі досвед.

Што такое Белавежская пушча? Несумненна, гэта ўнікальны лясны абшар, які ацалеў, дзякуючы свайму геаграфічнаму становішчу ды лагоднай зацікаўленасці з боку каранаваных асобаў – спачатку польскіх і літоўска-беларускіх каралёў, затым – рускіх цароў і, нарэшце, дзякуючы апекаванню першых сакратароў ЦК ды генеральных сакратароў. Тое, што Пушча была ўцехай, месцам палявання абмежаванага кола людзей, што яе ў рэшце рэшт не разрабавалі і не расцягнулі, ёсць, бадай, асаблівасцю шматвяковага эксперыменту спецыфічнай эксплуатацыі прыроды, які ўвасабляе Пушча. Тут не толькі паляванне, тут іншыя віды дзейнасці. Прыкладам, бортніцтва. Бортнікі пушчы (18-19 ст. ст.) займалі выключнае становішча. Дрэвы, дзе ставіліся борці, браліся пад ахову, а камель пазначаўся адмысловым таўром. Самі ж бортнікі вызваляліся ад звычайных збораў і падаткаў.

З гэтага ды іншых прыкладаў бачым, якім чынам асаблівае стаўленне да Белавежскай пушчы – гэтага дзівоснага кутка прыроды – спрыяла яе захаванню. А цяпер векавыя дрэвы (дуб каля 500 гадоў, сасна ды інш.) маюць каштоўнасць не толькі як гістарычныя помнікі, але і як крыніцы інфармацыі для палеаэкалогіі, дэндракліматалогіі. На колцах гэтых дрэў захоўваюцца ўнікальныя звесткі (за 500 і больш гадоў) аб штогадовых узроўнях грунтовай вады, ападках, мокрым альбо сухім леце, найкаштоўная геалагічная інфармацыя. Дарэчы, падзеі Чарнобыля (1986) таксама занатоўваліся на колцах дрэў у выглядзе павышанага ўтрымання пэўных элементаў.

Вось чым каштоўныя абсалютна запаведныя зоны. Тут я цалкам падзяляю думку У. Дацкевіча, што нельга павярхоўна, адвольна вызначаць такія зоны. Дзялянкі абсалютнай запаведнасці павінны заставацца такімі заўсёды, а не пераносіцца з месца на месца, як некаму захацелася.

Аднаўленне парушанага меліярацыяй гідрарэжыму ляжыць цяпер, верагодна, праз стварэнне штучных сажалак з рэгуляваным вадацёкам. Возера Лядскае і ёсць пачаткам гэтае справы. Добрым пачаткам. Трэба ісці далей, дакладна разлічыць водны баланс Пушчы, хоць, пэўна ж, Пушчу адным гідрарэжымам не ўратуеш. Я размаўляў з супрацоўнікамі Нацыянальнага парка. Іхняе меркаванне – пры той сістэме гаспадарання, якая ўсталявалася, Пушча працягне нядоўга і ўпадзе канчаткова. Аднак, змяніўшы гэтую сістэму, мы здолеем спыніць працэс заняпаду і поўнай дэградацыі.

Крыху пра статус. Нацыянальны парк ці запаведнік? Мяркую, што па характару дзейнасці Белавежская пушча шырэй і глыбей, чым Нацыянальны парк. Тут сітуацыя такая, што вызначэнне, якое б цалкам адпавядала месцу і ролі Пушчы, увогуле цяжка знайсці.

Падчас наведання Пушчы я сустрэўся з выключна цікавымі спецыялістамі-эколагамі, якія, відаць, яшчэ выкажуць сваю думку на старонках газеты. Маю на ўвазе і Ганну Дангубенка, і Вячаслава Семакова, і Мікалая Чэркаса, і іншых. Хачу звярнуцца таксама да сённяшніх ляснічых: сябры, успомніце нашы інтэлектуальныя барыкады 1984 года, як ваявалі з меліярацыяй, высечкай абсалютнай запаведнай зоны. Няўжо ўсё марна?

Думаю, зарана абвяшчаць поўны канец, Пушча яшчэ жыве і за яе варта змагацца – перш-наперш, дамагчыся скіраваць рухавую дзейнасць чарговай адміністрацыі ў лепшы бок.

## Кантрапункт CONTRAPUNCT

### Падлесак пад кронамі, альбо Колькі лірычных радкоў з вучнёўскіх сачыненняў

*"Трэба, каб у лесе гаспадарыла не піла, а розум і веды",– так выказаў думку ў сваім сачыненні адзін з выхаванцаў Камянюкскай школы Слава Краўчук. Камянюкі, нагадаем, – вёска, побач з якой месціцца галоўная сядзіба Нацыянальнага парка "Белавежская пушча". З адміністрацыяй, музеем, навуковым аддзелам, гасцініцай, тэнісным кортам. Здараецца, думкі дзяцей, пазбаўленыя кампрамісаў, ставяць у няёмкі стан і самых бацькоў, якія нярэдка жывуць з кампрамісаў, не маючы волі і магчымасці нешта змяніць. Але жыццё мкне наперад: дзеці хутка становяцца дарослымі і неўзабаве да іх прыходзіць чарга выбіраць рашэнні. Паміж дабром і злом, пілою і розумам.*

*Відаць, няма такога чалавека, які б не ведаў Белавежскай пушчы. У які бок ні паглядзіш — скрозь бачыш лес. Ён прыгожы ў любую часіну года. Я люблю бываць сярод хвояў, бяроз і елак. Люблю збіраць ягады і грыбы. Люблю слухаць птушыныя спевы.*

**Вольга Кіслюк, 5 клас.**

*Цяпер Белавежская пушча — об'ект сусветнай спадчыны. Такі статус маюць самыя каштоўныя мясціны планеты. Гэта самы вялікі ў Еўропе лес, які захаваў сваю першабытнасць і якіх засталося няшмат на Зямлі. Замест іх пасаджаны штучныя лясы, дзе не растуць такія, як у нас, асілкі-дубы, магутныя сосны ды елкі.*

**Цімафей Дворак, 11 клас.**

*Белавежская пушча — адзін з найстаражытных лясоў Еўропы. Тут захаваліся дрэвы-волаты, якім за пяцьсот гадоў. Іхнія кроны шырока распасцерліся над падлескам. Мне часта даводзілася моцна задзіраць галаву, каб убачыць вяршаліну. Кожная такая сустрэча адкрывала мне штосьці новае, запаветнае.*

**Андрэй Шыбко, 6 клас.**

*Справядліва кажуць, што радзіму выбіраць не дадзена і трэба любіць яе, багатая яна ці бедная, славутая ці невядомая зусім. Мне, напэўна, пашанцавала, бо я нарадзілася ў адным з самых слынных і прыгожых куткоў зямлі — Белавежскай пушчы.*

*Часта хачу зразумець: чаму чалавек гаспадарыць у прыродзе і забываецца на свой розум, на тую мяжу, за якою пустэча альбо дно прорвы? Чаму не спяшаецца ратаваць прыроду, калі ў гэтым ёсць відавочная патрэба? Чаму прага здабытку пераважае перасцярогу? Тым часам старажытныя лясы, паводле звестак вучоных, скарачаюцца пад націскам гаспадарчай дзейнасці. Мы не ашчаджаем тое, што маем.*

**Таня Уласюк, 11 клас.**

*У лесе вельмі чароўны свет. У ім векавыя дубы, гонкія сосны, бярэзнікі.*



Фота: Уладзімір Дацкевіч

*А колькі ў Пушчы звяроў і птушак! Цар лесу — магутны зубр. На кожным кроку пачуеш дзятла. Шмат тут ягад, грыбоў.*

**Святлана Казадой, 5 клас.**

*Назвы Беларусь і Белавежская пушча зліліся, і адарваць адно ад другога ўжо немагчыма, як нельга ў чалавека забраць душу.*

*Чалавек, які завітаў у Нацыянальны парк "Белавежская пушча", змяняе шум гарадоў на пошум дуброў і птушыны спеў, забруджанае паветра — на водар ляснога ўлоння. Варта адзін раз сюды прыехаць — і ўжо будзе карцець завітаць сюды зноў і зноў.*

**Аляксандр Жукаў, 10 клас.**

*Наша пакаленне павінна шмат зрабіць, каб Пушчу як вялікі скарб перадаць у спадчыну сваім нашчадкам. Патрэбны агульныя намаганні, каб лес не выразаўся больш меры, каб у ім гаспадарыла не піла, а розум і веды.*

**Вячаслаў Краўчук, 11 клас.**

Вясна, 1997

### SUMMARY

***Readers have responded with anxiety to polemically pointed advertisementin the newapaper under the heading of "Drop of the Belaya Vezha dense forest", p.4***

***The Belaya Vezha bisons were bred in the Polessye radiation reservationin the South of Belarus, p.5***



 

# Пытанне для недалёкай будучыні

## Белавежскія перасяленцы абжываюць чарнобыльскія аграцэнозы

*Віталь Прошча*

Хто ж выпісаў ім гэтую пуцёўку на сытыя, пакінутыя чалавекам аграцэнозы?

Мы гутарым з Пятром Рыгоравічам Козлам – акадэмічным вучоным-зубразнаўцам – на пушчанскай сцяжыне (падчас аднаго з паседжанняў навуковай рады Нацыянальнага парка "Белавежская пушча"). Я разумею, лепш было б сустрэцца там, на месцы, і ўсё ўбачыць на свае вочы ды пачуць на свае вушы. Але камандзіроўка ў Палескі радыяцыйна-экалагічны запаведнік, дзе волаты з-пад Белавежы абжываюць новыя сялібы, будзе ўжо працягам сённяшняй тэмы.

Між тым, рассяленне пушчанскіх зуброў па асяродках Беларусі – справа ўжо далёка не новая. Задоўжанай і яўна вычарпанай практыкай вучоныя лічаць тое, што месцам захавання ў Беларусі рэдкага віду была толькі запаведная Пушча. Вялікая шчыльнасць пушчанскай папуляцыі ў рэшце рэшт не паспрыяла ўмацаванню генатыпу зубра. Бадай, на нішто зведзена кармавая база. Празмерная статкавасць, асабліва зімой ля падкормачных пунктаў, выклікала ў рагатых сталоўнікаў дыскамфорт, бо зубр, як вядома, не любіць кагалаў. У рэшце пагаршаўся фізічны стан, не было належнага прыплоду.

Неяк не бралі да ўвагі выснову Дарвіна аб тым, што новыя экалагічныя ўмовы здатныя фармаваць і новы, якасна адметны тып жывёлы, заўважае вучоны. Калі ўтрыманне пры гэтым спрыяльнае, від дае ўнутраны скачок да самаўзнаўлення. Так бы мовіць, актывізуецца, амалоджваецца, знаходзіць незадзеяныя рэзервы.

Вось чаму, апроч іншых асяродкаў, у якасці новых зубровых сялібаў абраны і Палескі радыяцыйна-экалагічны запаведнік. Пётр Козла спасылаецца на даследаванні Інстытута заалогіі, якія праводзіліся ў забруджанай зоне на працягу дзесяці гадоў. Яны паказалі, што дзікія капытныя – кабан, казуля, лось – толькі першыя два гады пасля аварыі далі "мінус" па лініі ўзнаўлення. Тады маладняк пераважна выміраў. Наступныя восем гадоў іх колькасць павялічвалася і цяпер надзвычай высокая, жывёлы добра разводзяцца. Ёсць, канешне, пэўныя змены, скажам, на ўзроўні тканкі, клетак, крывяноснай сістэмы. Але засведчана тое, што жывёлы менш адчувальныя да радыяцыі, чым арганізм чалавека. Іхняя ўстойлівасць перасягае нашу.

*Парадаксальная рэч. Канец XX стагоддзя. "Чырвонакніжнага" зубра перасяляюць з запаведных пушчанскіх пашаў на апакаліптычныя палі ў запаведнік "катастрофы стагоддзя" – Палескі радыяцыйна-экалагічны. У самае, пічы, пекла. Пад знак "Высокая радиация. Вход запрещен". Туды, дзе пануе атамная чума. І смяртэльная небяспека, прынамсі, для чалавека. А што для іх – сучаснікаў мамантаў? Можа, ім наканавана здолець і гэтую злыбяду – выстаяць на абшарах зняверчанай біясферы.*

Вынікі доследу й далі падставу вучоным браць на сябе адказнасць за прынятае рашэнне – завозіць туды зуброў, закладваць папуляцыю. Што і як будзе далей, пакажа час і назіранні. Спадар Козла, аднак, не выключае долі рызыкі. Але, разважае ён, калі з аднаго боку рызыка, з другога – шэраг перавагаў, істотных для эксперымента. Хоць Беларусь яшчэ не збяднелая на лясы, аднак суцэльных лясных абшараў бракуе. А зубрам патрэбны плошчы, дзе яны маглі б вольна й на добрым пракорме жыць. Палескі запаведнік якраз і ёсць гэткай мясцінай. Наўкол лясы. Нямерныя плошчы сельгасугоддзяў, дзе ўсё зарастае... Можна сказаць, тут сфармавалася і працягвае фармавацца ўнікальная жыццёвая прастора. Не тэрыторыя, падкрэслівае суразмоўца, а менавіта прыдатная, надзвычай спрыяльная для жыцця жывёлаў прастора. Вымяшчэнне з яе чалавека дало пачатак зваротным працэсам – назад, у дзікую прыроду. Як гэта паўплывае на мікраэвалюцыю – пытанне для недалёкай будучыні. Калі ўсё будзе добра, працягвае вучоны, ёсць перспектыва стварыць тут вялікую папуляцыю белавежскага зубра – не менш як на 200-250 галоваў. Сёння ўзровень спрыяння досыць высокі. Зубры выдатна прыжываюцца, ніякіх пагрозаў іхняму жыццю не заўважана.

Аховай, кармленнем, доглядам зуброў спадар Козла час ад часу цікавіцца сам, робіць кантрольныя камандзіроўкі на месца. Самы высокі бал яшчэ ставіць рана. Аднак зроблена і робіцца шмат. Апроч двух егераў, якія адмыслова "прыстаўленыя" да зубровага статку, станам здароўя белавежскіх перасяленцаў апякуецца і ветурач. Пабудаваны вялікі загон – 75 гектараў. Ёсць вадапой, кармавая паляна. Пасеялі бручку, якую любяць пахрумстаць зубры. У параўнанні з Белавежскай пушчай тут жывёлам куды сытней. Ды і больш вольна, спакойна. Летась, кажа Пётр Рыгоравіч, статак не трэба было выпускаць на волю – пракорму хапіла ў межах загона.

Я пацікавіўся ў прызнанага зубразнаўца ( зусім нядаўна Пётр Козла стаў лаўрэатам міжнароднай прэміі Генры Форда за ўклад у захаванне белавежскіх зуброў), чым, на яго погляд, каштоўны для навукі белавежскі "чырвонакніжнік".

Зважаючы на сённяшняе бурнае развіццё інжынернай генетыкі, сказаў вучоны, гэта мае прынцыповы сэнс. Магчымасць штучнага скрыжоўвання зубра з дамовай жывёлай дае перспектыву новага высокапрадуктыўнага заводу свойскага статку. Прычым, у двух напрамках, малочным і мясным. Малако зубрыцы ўдвая-ўтрая перавышае па тлустасці малако звычайнай каровы. Дый вага зубра сягае за тону...

Адным словам, гэта такі генетычны матэрыял, які не мае сабе кошту, зазначыў напаследак вучоны.

### Рассяленне белавежскіх зуброў па асяродках Беларусі

| Месца рассялення | Год | завезена | на 15.09.97 |
|---|---|---|---|
| Барысаўскі лясгас | 1975 | 10 | 34 |
| Нацыянальны парк Прыпяцкі | 1986 | 10 | 28 |
| Валожынскі лясгас (Налібоцкая пушча) | 1994 | 15 | 28 |
| Палескі запаведнік | 1996 | 15 | 19 |
| Асіповіцкі лясгас | 1997 | 15 | 18 |

*У сярэднім, тлумачыць П. Козла, агульны прырост зуброў у апошніх трох асяродках склаў каля 30%, што ў 2-3 разы вышэй, чым у Белавежскай пушчы. Рассяленне новых экалагічна рознатыпных папуляцый гэтых жывёлаў істотна зніжае рызыку іх захворвання і масавай смяротнасці, павышае выжывальнасць віду.*

*Увага: зубры знаходзяцца на вольным утрыманні, таму недакладнасць падазеных звестак магчымая да ±1 асобіны.*



*Фота: студыя рэкламных фатографаў "ВІС"*

# Роўна сем стагоддзяў таму стаяла цёплая восень, і ў сярэдзіне лістапада цвілі ружы

## З гісторыі прыроды і клімату паводле тысячагадовага летапісу экстрэмальных умоў надвор'я

*Пра надзвычайныя кліматычныя з'явы далёкай мінуўшчыны, засведчаныя летапісцамі на працягу стагоддзяў, наш чытач мае ўяўленне з першай публікацыі (№1 (4), 97). Дабіраючы звесткі хронікі, рэдакцыя першым чынам скіроўвае ўвагу на тэрыторыі, куды ўваходзіла альбо з якімі суседнічала Беларусь, а таксама ўнікаючы пэўных паўтораў. Перагорнем яшчэ раз старонкі-памяткі ацалелых летапісных зводаў, адчуем подых надвор'я далёкіх маўклівых стагоддзяў.*

| год | |
|---|---|
| 1219 | Вельмі дажджлівае лета. Амаль не праяснівалася Паводкі. Няўрод. Голадна. Дажджы чаргаваліся з бурамі. |
| 1224 | Засуха. Лясы, бары і балоты згаралі ў моцным дыме, за якім не відаць было чалавека. Птушкі не маглі лётаць, падалі на дол і ўжо не падымаліся на крыло. Няўрод, галадуха. Суровая і доўгая зіма. |
| 1227 | Адлігі і дажджы ў студзені. Мяккая сырая зіма. |
| 1232 | У ліпені ды жніўні стаяла такая спёка, што ў пяску можна было спячы яйка. |
| 1255 | Небывалая паводка на Прыпяці. |
| 1269-1270 | Палярныя ззянні: *"...з'явіўся бляск на небе, ад якога светла было па ўсёй краіне"* (Польшчы- *рэд.*) Затым у Шлёнску ішоў *" ...дождж крывавы, а пасля... пайшоў дождж вялікі."* Падчас паводкі "ўтапілася 600 людзей". Голад быў праз 4 леты. Дарагоўля. |
| 1275 | Паводкі на рэках Германіі. Дажджы лілі з траўня да восені. |
| 1282 | Моцныя навальніцы і буры: *"... маланкі, гром вялікі і вятры з віхрам страшныя".* |
| 1297 | Цёплая восень. У сярэдзіне лістапада яшчэ цвілі ружы. |
| 1310 | Год з вялікімі спадкамі. Паводкі. Голад. |
| 1335 | Сухое лета. Пацярпелі Масква, Волагда, Віцебск – "усё пагарэла". |
| 1349 | Эпідэмія ў Полацку. Зіма сырая, а вясна светлая і вельмі лагодная. |
| 1353 | У траўні выпаў снег і быў лёд. Лета сухое і вельмі спякотнае. Рэкі перасохлі. |
| 1362 | Лета невыказна гарачае і сухое. Зіма суровая і доўгая. Жывёлу ў Нямеччыне кармілі саломай са стрэх. |
| 1372 | Вельмі цёплая восень і суровая зіма. |
| 1373 | Мнагаснежная зіма, якой не бачылі 100 гадоў. Затым вялікая паводка. |
| 1378 | Моцныя працяглыя маразы. Пагінула шмат людзей і жывёлы. Балоты, азёры і рэкі павымярзалі да дна. Спякотнае лета. |
| 1389 | Сухое лета. Недалёка ад Кёльна пераходзілі Рэйн. |
| 1401 | Дажджы з 12 сакавіка да сярэдзіны верасня. |
| 1406 | *"Была бура вялікая і віхор страшны..."* У паветра падняло фурманку з канём і бураю занесла *"ў трусе і віхры"* ў невядомым кірунку. Толькі назаўтра знайшлі мёртвага каня. Фурманка звісла на высокім дрэве, а чалавек прапаў без вестак. |
| 1408 | Снежная зіма. Нашэсце шкоднікаў: *"... да тае зімы 3 леты ляцелі белыя чэрві... Пераходзілі яны лясы, рэкі, палі, пасевы і паелі яловыя дрэвы, з чаго пагінулі ўсе вавёркі".* Эпідэмія: *"... на людзей мор вялікі".* |
| 1420 | Раннія маразы, на 15 верасня пайшоў снег, ішоў тры дні. Пакрыў зямлю ў *"4 пядзі".* Ураджай застаўся несабраны: *" а ўсякае жыта пад снег палегла".* Зіма мяккая. |
| 1434 | Буры, ліўні, снягі, холад. |
| 1436 | Дажджы, няўрод. Галодны час. Ліха на ўсёй зямлі Літоўскай і Рускай: *"... брат брата свайго роднага забіваў".* |
| 1445 | У траўні выпаў глыбокі снег. |
| 1448 | Снег выпаў 1 верасня. |
| 1460 | Моцная бура ў Ноўгарадзе: *"... лес ламала і харомы рвала".* Тым жа летам буры бушавалі і ў іншых месцах. |
| 1471 | Ранняя вясна. У лютым цвілі дрэвы, як у траўні. А восенню ізноў цвілі сады. |
| 1474 | Небывалы ўраган разбурыў некалькі гарадоў Аўстрыі і Вугоршчыны. |
| 1476 | Падчас навальніцы 25 траўня маланка трапіла ў касцёл Святога Францішка. Вялікая паводка на Вісле. |
| 1486 | Вясна з павяртаннем зімы: *"Другога траўня выпаў снег, такі глыбокі, што можна было ехаць санямі".* У тым жа месяцы, 21 траўня, зноў выпаў снег, *"і была вялікая сцюжа".* |
| 1492 | Мяккая зіма: у лютым *"аж сады квітнулі",* аднак 15 сакавіка так *"... ударыла зімна",* што ўсё *пасохла й пагінула".* |

Паводле кнігі *"Тысячагадовы летапіс надзвычайных з'яў прыроды",* Масква, 1988

**Метэаролагі канстатуюць:** разбуральныя шквалы на Беларусі не рэдкасць. Яны здараюцца двойчы ці тройчы на год, але маюць лакальны характар. Ураган 23 чэрвеня ёсць надзвычайны, яго цяжка з чым параўнаць за ўсю гісторыю стыхійных прыродных з'яў паводле маштабаў разбурэння ў межах Беларусі

## Цёмная хмара "з агнём", шквалам ветру і навальніцай нагадвала відавочцам канец свету.

***...1997.** 23 чэрвеня над раёнамі Беларусі ў напрамку Ганцавічы — Стоўбцы—Валожын (Брэсцкая і Мінская вобласці) пранёсся рэдкі ў гісторыі метэаназіранняў цёплага часу ўраган.*

*Людзі, якія бачылі на свае вочы разгул стыхіі, гавораць пра вялікую цёмную хмару з агнём, што спускалася, бы самалёт, на зямлю. Гэта былі страшныя 10-15 хвілін, калі неба змяшалася з долам і ўсё навакол гуло, круціла, а дождж рушыў сцяною пад шкваламі ветру. Стыхія з на-вальніцы, граду і моцнага ліўня нагадвала, як расказваюць, схон свету; хацелася жагнацца ды прасіць літасці ў Бога...*

*Паводле звестак беларускіх метэаролагаў, парывы ветру сягалі 15-20, часам 25, а ў раёне Ганцавічаў — 32 метраў у секунду.*

*Максімальная шырыня паласы разбурэнняў склала амаль 100 кіламетраў. Ураган, бы раз'юшаны ваяўнік, разносіў, карчаваў, ламаў усё, што траплялася на ягоным шляху: будынкі, дрэвы, камунікацыі. Некаторыя хаты заставаліся не толькі без дахаў, а нават без столі. Дашчаныя збожжасховішчы разляталіся, быццам картачныя дамкі. Ламаліся, шчапаліся, падалі на зямлю камлістыя старыя дрэвы. Лясныя дзялянкі, па якіх меціў шлях ураганны драпежнік, засталіся скрыўджаныя, ды пазначаныя слядамі жорсткага ветравалу. Лясныя дарогі, шматлікія кіламетры бальшакоў і вуліц патрабавалі адмысловай расчысткі. Спыняліся цягнікі. Ад моцнага ветру, дажджу і граду палеглі тысячы гектараў збажыны. На вялікі жаль, не абышлося без чалавечых ахвяраў.*

*Метэаролагі Беларусі ацэньваюць стыхію як вельмі рэдкую. Шквалы з такімі наступствамі ўвогуле не выключэнне, здараюцца ў Беларусі амаль штогод, але маюць лакальны характар. Апошні выпадак вызначаецца буйнаахопнасцю і ў цёплы час года на тэрыторыі Беларусі ёсць першым за перыяд назіранняў паводле сваіх маштабаў.*

*Як сведчаць метэаназіранні, цыклон, які наслаў нам "хмару з агнём", пачаў фармавацца далёка за межамі Беларусі, дзесьці ў струменных плынях над раёнамі Італіі, Венгерскай нізіны, Карпатаў, пахіляючыся ў бок Львова. А 15 гадзіне гэта ўжо быў менавіта цыклон з зонамі ліўняў і навальніц. На ўсходзе Венгрыі адзначаліся шквалы. У гэты ж час за-фіксаваны шквал і ў раёне метэастанцыі Высокае Брэсцкай вобласці. А блізка 18 гадзіны цыклон з хуткасцю прыкладна 140 кіламетраў у гадзіну перамясціўся на тэрыторыю Беларусі ў раён Баранавічаў і значна пашырыўся. Вышыня воблакаў сягала 18 кіламетраў. Праз тры гадзіны хуткасць урагана ўпала напалову, вецер пачаў сціхаць. Хмара з моцным дажджом пранеслася і над Мінскам, але гэта ўжо было толькі кволае водгулле стыхіі. Апоўначы цыклон пакінуў Беларусь і, як сведчаць назіральнікі, перамясціўся ў раён Вялікіх Лукаў.*





SUMMARY

**Details of ruinous hurricane of 27 June 1997 are presented. In his interview a famous climatologist professor Vladimir Loginov ponders over the weather regularities and anomalies, p.6-7**

# Праз сотні гадоў па Беларусі зноў пацякуць звілістыя рэчкі?

**Кліматолагі развaжаюць:** чалавек, змяняючы аблічча зямной паверхні, рызыкуе ў межах 10 - 15 працэнтаў. Шлях урагана - 97, магчыма, пракладваўся і з удзелам чалавечага фактара. Вучоныя, прынамсі, з пэўнасцю засведчылі ўплыў меліярацыі на клімат Беларусі.

*На пытанні зялёнага агенцтва "Неруш-прэс" адказвае дырэктар Інстытута праблем выкарыстання прыродных рэсурсаў і экалогіі, прафесар, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Уладзімір Логінаў*



Фота: Ігар Бышнёў

**Карэспандэнт.** *Уладзімір Фёдаравіч, калі здараюцца прыродныя стыхіі накшталт чэрвеньскага ўрагана, чалавек міжволі ўціскае галаву ў плечы і пачынае задумвацца, ці не гнеў гэта божы за ганьбаванне зямлі, за ўсе нашы грахі перад прыродай. Быў жа святы наказ Навышняга з біблейскай гісторыі аб стварэнні зямлі – ашчаджаць яе багацці, шанаваць боскі дар...*

**У.Л.** Сапраўды яно так. Калі мы гэта ўсведамляем, значыць, гатовыя нешта перагледзець, асэнсаваць, змяніць у дачыненнях з прыродай. Кожная метэаралагічная катастрафічная з'ява сапраўды мусіць быць урокам для чалавека, нялішняй перасцярогай.

**К.** *Нялішне ведаць таксама, якія складнікі біялагічнай структуры нашага наваколля найбольш выклікаюць альбо, наадварот, пастрымліваюць падобныя з'явы.*

**У.Л.** Рэч у тым, што паходжанне і ўраганаў, і цыклонаў, і антыцыклонаў, як вядома, звязана першнаперш з асаблівасцямі падсцілачнай паверхні. А гэта глеба, лес, рака, возера – тое, што на ўзроўні ног, рук, вачэй... Калі вы змянілі што-небудзь у гэтым коле ці ланцугу – напрыклад, замест лесу пакінулі пустэчу, зялёны аазіс звялі на пясок, — вы тым самым змянілі шурпатасці зямной паверхні, змянілі вільготнасць, змянілі колеры і адценні, што магло паўплываць на адбіццё радыяцыі і хуткасць ветру. Адкуль гэтыя змены, добра вядома. Гаспадарчая дзейнасць чалавека ўжо даўно з'яўляецца фактарам вялікай рызыкі, і тое, што яна можа стымуляваць узнікненне анамалій, не выклікае сумнення.

Але важна не пайсці ў крайнасць. Бо чалавечая дзейнасць непараўнальна малая з фактарамі прыроды. Скажам, каля 85-90% вільгаці да нас прыходзіць з Атлантыкі. Доля мясцовага выпарэння складае 10-15 %. Змяняючы нашу падсцілачную паверхню, прыроднае аблічча, мы рызыкуем у межах вось гэтых 10-15 працэнтаў. Але ўявіце сабе. Вось прыйшла да нас паветраная маса з Атлантыкі. Каб пачалася кандэнсацыя, неба захмарылася і ў рэшце рэшт выліўся дождж на нашы палі, не хапае, скажам, дзесятай долі працэнта вільготнасці. Гэтую долю і можа забяспечыць мясцовае выпарэнне, на якое мы здольныя ўплываць не лепшым чынам. На жаль, немагчыма сказаць з поўнай дакладнасцю аб вызначальнасці гэтых фактараў -- многа ці мала? Патрэбны адпаведныя даследаванні. Ва ўсякім разе, няма падстаў сказаць так: вось мы тут крыху змянілі мясцовы ландшафт, сёе-тое засыпалі, пасунулі, абрынулі — але гэтым самым не ўнеслі зменаў у працэсы рэгіянальнага маштаба. Нельга сказаць так. Унеслі!

**К.** *Значыць, ёсць падставы трымацца як мага больш маляўнічага ландшафту, памнажаць ягоную разнастайнасць, а не ствараць фактары рызыкі, разганяючы голае поле ад гарызонта да гарызонта, высушваючы балотцы ды рэчкі, мяняючы цёмныя адценні на больш светлыя і гэтак далей? Расце дрэва ці гай – няхай расце, ёсць азярцо з балотцам – не дай ім засохнуць. Так?*

**У.Л.** Безумоўна. Не кажучы пра лес, рэкі, поймы. Аднак не варта забывацца, што ў прыродзе ўсё ўзаемазвязана, знітавана, ранжыраваць фактары, якія здольныя змяняць надвор'е і клімат, не мае сэнсу без сур'ёзных доследаў. Гаворка ідзе пакуль што пра несумненную значнасць паверхневых асаблівасцяў нашых ваколіц у сукупнасці з іншымі ўмовамі.

**К.** *І ўсё ж я вяртаюся да 10-15 працэнтаў, у межах якіх чалавек усё больш рызыкуе, ствараючы перадумовы для магчымых непажаданых з'яў. Ці не падаецца вам, што там, дзе пранёсся чэрвеньскі ўраган, былі на тое свае прычыны, прынамсі, звязаныя са зменамі гэтай самай паверхневай падсцілкі, што свой разбуральны шлях ураган знайшоў менавіта там, дзе яму, вобразна кажучы, "мякка падаслалі"? Маю на ўвазе і вынішчальную меліярацыю, і высечкі лесу, і шматгадовыя іншыя прыцясненні прыроды, якія ў рэшце рэшт збяднілі, спустошылі ландшафты. Можна так ставіць пытанне?*

**У.Л.** Можна так казаць і такім чынам ставіць пытанне. Аднак здараліся ўраганы, якія пракладвалі дарогу там, дзе не было меліярацыі альбо змены паверхні былі мінімальныя. Магчыма, шлях урагана пракладваўся і з удзелам чалавечага фактара. Але сцвярджаць так, у прыватнасці, маючы на ўвазе спусташальныя вынікі меліярацыі, у нас няма дастатковых падстаў. Гэта не пылавыя буры, дзе ўсё відавочна: тарфяны пласт быў зрушаны, пяскі агаліліся, выйшлі на паверхню, на месцы меліяраваных плошчаў мы бачым барханы.

У нас, дарэчы, была такая спроба – ацаніць уплыў меліярацыі на клімат. У мікрамаштабе ён – несумненны, гэта відаць па сваім агародзе. Іншая рэч, ці змяніўся рэгіянальны клімат, ці можна, напрыклад, сказаць: у выніку меліярацыі Палесся тэмпература ў гэтым рэгіёне стала вышэй на 0,5 градуса і г.д. Даследаванні паказалі, што так, уплыў меліярацыі на рэгіянальным узроўні ёсць, асушэнне тэрыторый зрабіла адчувальны адбітак на клімат усёй Беларусі. Гэта значыць, сама менш як 10 працэнтаў ад агульнай зменлівасці клімату маюць дакладна засведчанае меліярацыйнае паходжанне.

**К.** *Сёння, едучы па Беларусі, можна бачыць, як меліяраваныя тэрыторыі, парэзаныя стрэлкамі равоў, пачынаюць зноў забалочвацца, іншымі словамі – мяняць падсцілачную паверхню. Ці можна спадзявацца, што будзе мала-памалу вяртацца і клімат, больш устойлівы і прадказальны?*

**У.Л.** Безумоўна. Узнаўленне балот павінна працаваць на біясферу, на нашу трываласць. Не варта ў гэтых плошчах шукаць прыкметы запушчанасці – тэрыторыі вяртаюцца ў свой натуральны, ранейшы стан. Далей сама прырода пастараецца зрабіць так, каб асушаныя мясціны ізноў сталі балотамі з усімі далейшымі наступствамі – аднаўленнем раслінных супольнасцяў, торфаўтварэннем і гэтак далей.

**К.** *Магчыма, з будучых балотаў праз сотні гадоў зноў пацякуць звілістыя рэчкі?..*

**У.Л.** У нейкай меры гэта магчыма. Пры ўмове, калі працэсам узнаўлення не замінаць, а спрыяць.

**К.** *Фантастыка!*

**У.Л.** Трэба думаць наперад. Для нашага інстытута сёння гэта адна з праблемных задач – узнаўленне парушаных тэрыторый. Ёсць у навуцы адзін такі разумны тэрмін – прынцып Ле Шатэлье. Уявіце спружыну: на яе націскаеш, а яна дае аддачу, супраціўляецца. Так і з біясферай. Быў час, калі наша падсцілачная паверхня яшчэ не была парушаная, усё было дастаткова збалансаванае. Тады, а гэта колькі стагоддзяў таму, дзесьці перыяд Вялікага Княства Літоўскага, біясфера магла паглынаць вуглякіслы газ, а не выкідваць. Біёта сушы, наваколльнае асяроддзе падпарадкоўваліся прынцыпу Ле Шатэлье, чалавек тады не ціснуў на прыроду так як цяпер. Ад біясферы бралі дзесьці адзін працэнт яе прадукцыі. Свет быў устойлівы. Цяпер жа, калі насельніцтва павялічылася ў чатыры разы, адзін працэнт саступіў дзесяці. Спружына, вобразна кажучы, дала злом. Біясфера не здольная ўжо спраўляцца з прэсам індустрыяльнай эпохі. З гэтага вынікае, што сёння трэба вярнуць прыродныя комплексы, якія мы парушылі, у іх "працаздольны" стан, узнавіць іхнюю прадуктыўнасць. Вы думаеце, біялагічная разнастайнасць, пра якую цяпер так дружна загаварылі ў свеце, – гэта толькі эстэтычны бок справы? Не, не толькі. Усё той жа прынцып Ле Шатэлье — каб застацца на планеце, мы вымушаныя вярнуцца на ранейшыя ўстойлівыя пазіцыі, на тыя зваротныя сувязі, калі спружына магла спрацоўваць. Таму, калі гаворым пра біялагічную разнастайнасць, трэба найперш разумець унікальную здольнасць кожнага жывога арганізма, кожнага віда забяспечваць устойлівасць наваколльнага свету...

Прынцып Ле Шатэлье дае нам шанец лепш засвоіць цяперашні момант. У тым ліку і ўрок, што звязаны з катастрафічнымі кліматычнымі з'явамі. Не ўсё залежыць ад Сонца, шмат, як бачым, залежыць і ад нас, ад чалавецтва.

# ЛІЦЭЙ LYCEUM

Паводле гістарычных звестак, Ліцэй – гэта Гай пры храме Апалона Лікейскага, дзе вучыў Арыстоцель.

*Ліцэй - яшчэ адна рубрыка ў нашай газеце, дзе будзе прэзентавацца тэма вучнёўства, практыка навучання дзепя ўсяго пепшага, што можа нітаваць чапавека з прыродай.*

## Навучальны тэст "Беларускі лес"

**1. Ці ўплываюць лясы на клімат і надвор`е?**

а) Хутчэй клімат уплывае на лясы, а не наадварот.
б) Паміж лесам і надвор'ем сувязі не назіраецца.
в) У лесе практычна не бывае туманаў.
г) Акіяны і лясы фарміруюць клімат планеты.
д) Малы лес паляпшае надвор'е, вялікі - паляпшае клімат.
е) Дзе ёсць вялікія лясы, там не бывае ўраганаў.
ж) Уплыў ёсць, але вельмі нязначны.

**2. Ці ўплываюць лясы на сельскагаспадарчую вытворчасць?**

а) Уплыву няма, жыта расце не ў лесе, а ў полі.
б) Лясы бароняць бульбу ад туманаў.
в) Без лясоў ад засухі і замаразкаў гіне ўраджай.
г) Ад высокіх дрэў адзін толькі цень.
д) Уплыў , можа, і ёсць, але яго цяжка заўважыць.
е) Лясы толькі дарэмна займаюць урадлівыя глебы.
ж) Павышаючы ўзровень грунтовых водаў, лясы спрыяюць ураджаю.

**3. Ці маюць лясы істотнае гаспадарчае значэнне?**

а) Асобныя вёскі кормяцца пераважна з лесу.
б) Выдаткі на ўтрыманне лесу заўжды перавышаюць прыбыткі.
в) Гаспадарчае значэнне лясоў вельмі нязначнае.
г) Прыбытак ад лясоў істотны, але яго можна значна павялічыць.
д) У добрага гаспадара лес усю краіну пракорміць.
е) Пра гэта я ніколі не думаў.
ж) Іншае.

**4. Ці істотная роля беларускіх лясоў для Еўропы?**

а) Знікненне беларускіх лясоў шмат пагоршыла б клімат Еўропы.
б) Нашы лясы на Еўрапейскі клімат не ўплываюць.
в) Заходне- і Усходнееўрапейскія лясы злучаюцца праз Беларусь.
г) Без нашых лясоў клімат на кантыненце зробіцца няўстойлівы.
д) Гэты ўплыў немагчыма памераць.
е) Ніколі пра гэта не думаў.
ж) Уплыў нашых лясоў адчуваецца выключна ў межах Беларусі.

**5. У якім стане нашы лясы?**

а) Лепш і быць не можа.
б) У лясах, што побач з гарадамі, шмат смецця.
в) Пад уціскам чалавечай дзейнасці ідзе паступовы заняпад лясоў.
г))Высечка лясоў, асушэнне балотаў спрыяюць пажарам і ўраганам.
д) Лясы гінуць з-за пажараў і ўраганаў.
е) Стан нармальны і ўстойлівы.
ж) Стан лясоў няспынна паляпшаецца.

**6. Што пагражае беларускім лясам?**

а) Празмерныя высечкі з-за энергетычнага крызісу.
б) Нічога не пагражае.
в) Шкоднікі і хваробы.
г) Іншаземныя дыверсанты.
д) Браканьеры, п'яныя дурні і каларадскія жукі.
е) Дарогі, вялікагрузная тэхніка.
ж) Засухі, пажары і ўраганы.

**7. Як можна дапамагчы лесу?**

а) Гэта не мая справа.
б) Кожны павінен паводзіць сябе ў лесе ашчадна.
в) Неабходна дасканалае лесагаспадарчае заканадаўства.
г) Выкарыстоўваючы самыя сучасныя тэхналогіі лесакарыстання.
д) Перадаць усе лясы ў прыватную ўласнасць.
е) Трэба звярнуцца да вопыту продкаў.
ж) Я хацеў бы дапамагчы, але не ведаю як.



➢ змяншэнне лясоў на планеце можа на нішто звесці намаганні медыкаў у барацьбе с хваробамі, перш—наперш анкалагічнымі

➢ адзін гектар лесу ўвільгатняе паветра ў дзесяць разоў больш, чым гектар воднае паверхні

➢ чым большы абшар суцэльнага лесу, тым большая і ягоная жыццядайнасць у параўнанні з невялікімі ляснымі дзялянкамі

# Каментарыі да тэсту (варыянты адказаў)

Фота: Неруш-прэс



## 1. Ці ўплываюць лясы на клімат і надвор`е?

*Правільныя адказы:* акіяны і лясы фарміруюць клімат планеты; малы лес паляпшае надвор'е, вялікі - паляпшае клімат; вялікія лясы засцерагаюць ад ураганаў. Уплыў лесу на надвор'е відавочны: дастаткова ў сонечны дзень прайсці з гарадской плошчы у бліжэйшы лесапарк і адчуць прахалоду. Любы самы моцны ўраган губляе сваю моц, праляцеўшы 100-200 кіламетраў над лесам. Разлікі і назіранні паказваюць, што лясы змяняюць надвор`е і клімат у накірунку большай спрыяльнасці для чалавека ды іншых жывых істотаў.



## 2. Ці ўплываюць лясы на сельскагаспадарчую вытворчасць?

*Правільныя адказы:* лясы бароняць бульбу ад туманаў; без лясоў ад засухі і замаразкаў гіне ўраджай; павышаючы ўзровень грунтовай вады, лясы спрыяюць ураджаю. Высечка лясоў і асушэнне балотаў ужо прывялі да таго, што безмарозны перыяд скараціўся на Беларусі на цэлы месяц, а недахоп вільгаці пачынае адчувацца ўсяго праз тыдзень пасля апошняга дажджу. Звычайнай з`явай сталася тое, што ў асобных мясцовасцях з-за неспрыяльнага надвор`я цалкам гіне ўраджай ці то бульбы, ці то агуркоў, ці то памідораў.







## 3. Ці маюць лясы істотнае гаспадарчае значэнне?

*Правільныя адказы:* асобныя вёскі кормяцца пераважна з лесу. Прыбытак ад лясоў істотны, але яго можна значна павялічыць; у добрага гаспадара лес усю краіну корміць. Напрыклад, Фінляндыя, краіна, блізкая да Беларусі па шчыльнасці насельніцтва, са значна горшымі кліматычнымі ўмовамі дамаглася эканамічнага росквіту, абапіраючыся галоўным чынам на добра арга-нізаваную лясную гаспадарку. У нашай краіне лясы ў значнай ступені забяспечваюць дабрабыт людзей, аднак пры дбайным гаспадаранні стан лясоў мог бы быць куды лепшы, а прыбыткі ад яго павялічаныя ў некалькі разоў.



## 4. Ці істотная роля беларускіх лясоў для Еўропы?

*Правільныя адказы:* знікненне беларускіх лясоў значна пагоршыла б клімат у Еўропе; Заходне- і Усходнееўрапейскія лясы злучаюцца праз Беларусь; без нашых лясоў клімат на кантынененце будзе няўстойлівы. Тэрыторыя Літвы і тэрыторыя Украіны вельмі бедныя на лясы і таму менавіта беларускі лес стрымлівае сёння скразныя вятры з Чорнага на Балтыйскае мора,ёсць міграцыйным калідорам для жывёл і птушак. Калі б нашы лясы былі знішчаныя, змяніўся б і клімат на кантыненце, зрабіўся больш жорсткі, часцей бы здараліся ўраганы, вялікія паводкі і засухі.



## 5. У якім стане нашы лясы?

*Правільныя адказы:* побач з гарадамі шмат смецця; лясы становяцца крыніцай шматлікіх атручэнняў; пад антрапагенным прэсам змяншаюцца плошчы лясоў, асабліва спелых; высечка лясоў і асушэнне балотаў спрыяюць пажарам і ўраганам, у выніку гінуць лясы.Сёння гэты працэс набывае катастрафічны характар -- ураганы і пажары знішчаюць лясы, з-за вынішчэння лясоў ураганы і пажары становяцца больш частымі і разбуральнымі.



## 6. Што пагражае беларускім лясам?

*Правільныя адказы:* празмерныя высечкі, дарогі, вялікагрузная тэхніка; шкоднікі і хваробы; браканьеры і п'яныя, засухі, пажары і ўраганы. Пагрозаў вельмі шмат, пералік іх можна доўжыць і доўжыць на прыкладзе мясцовага прыродакарыстання і гаспадарання.

## 7. Як можна дапамагчы лесу?

*Правільныя адказы:* кожны павінен паводзіць сябе ў лесе ашчадна і пашанотна, з ласкай і ўдзячнасцю да лесу; трэба ўдасканаліць лесагаспадарчае заканадаўства, карыстацца самымі сучаснымі тэхналогіямі і звяртацца да вопыту продкаў. Сучасныя тэхналогіі і вопыт продкаў могуць выдатна спалучацца паміж сабой, таксама як клопат грамадскасці з працай спецыялістаў. толькі агульнымі намаганнямі мы здольныя захаваць лясы, выратаваць сябе ад экалагічнай катастрофы, забяспечыць устойлівасць асяродкаў жыцця.

SUMMARY

**Educational and cognitive test "Byelorussian forest" addresses to the pedagogical audience. The advertisement opens a new rubric "Lyceum", p.8-10**

➢ *Як карыстацца навучальнымі тэстамі -- ст.10*

# Няхай наш лес будзе вечны пад небам Бацькаўшчыны

## Як карыстацца навучальным тэстам

**Яўген Церахаў,**
*біёлаг, дырэктар Лошыцкага парка (Мінск)*

*Прапанаваныя навучальныя тэсты па экалогіі лесу распрацаваны дзеля таго, каб засяродзіць увагу вучняў на існаванні экалагічных праблем, скіраваць іх на пошук шляхоў паляпшэння стану навакольнага асяроддзя. Тэсты могуць выкарыстоўвацца таксама для дыягностыкі матывацыі і ведаў, правільнасці засваення матэрыялу, правядзення конкурсаў і алімпіяд. У педагагічнай практыцы апрабаваны наступныя формы выкарыстання тэстаў:*

КАНСПЕКТ ДЛЯ ЛЕКЦЫІ. Калі тэма, закранутая ў тэсце, добра вядомая настаўніку альбо ёсць дастатковая колькасць літаратуры, можна скарыстаць тэст у якасці канспекта для лекцыі. Найбольш мэтазгодна гэта рабіць 1-2 разы на працягу навучальнага года на пачатку новай тэмы.

ДАПАМОЖНІК ДЛЯ ГУТАРКІ. Настаўнік просіць вучняў адказаць на чарговае пытанне тэста і вызначае правільны сярод некалькіх адказаў. Калі ўсе зробяць памылкі, выкладчык, скарыстаўшы каментарый, тлумачыць, чаму адно сцвярджэнне правільнае, а іншае - не. Гутаркі варта праводзіць 2-3 разы на працягу навучальнага года.

АДКАЗЫ З ДЫЯГНОСТЫКАЙ матывацыі і ведаў праводзяцца з выкарыстаннем кантрольных картак. На кожную парту кладзецца адна апытальная табліца. Кожны вучань атрымлівае кантрольную картку. У ёй насупраць нумара пытання навучэнец абводзіць літары з правільнымі адказамі. Настаўнік апрацоўвае кантрольныя карткі, падлічвае колькасць балаў, набраную кожным вучнем, ацэньвае агульны ўзровень ведаў у класе, высвятляе найбольш тыповыя памылкі. Пасля праверкі вучням раздаюцца тэсты і кантрольныя карткі з падлічанай колькасцю балаў. Ахвотным прапануецца аргументаваць, чаму яны абралі той ці іншы адказ. Метад больш дарэчы выкарыстоўваць на пачатку тэмы дзеля папярэдняй дыягностыкі ведаў і матывацыі вучняў, дзеля перыядычнага кантролю за правільнасцю засваення матэрыялу. Па выніках адказаў навучэнцы могуць быць падзеленыя на падгрупы з больш ці менш інтэнсіўным вывучэннем экалогіі, з паглыбленым вывучэннем асобных яе раздзелаў і г.д.

АДКАЗЫ З САМАСТОЙНЫМ КАНТРОЛЕМ узроўню ведаў. Як і ў папярэднім выпадку, навучэнцы запаўняюць і здаюць кантрольныя карткі, але на наступных занятках карткі і тэсты раздаюцца вучням і ім прапануецца на працягу ўрока самастойна вызначыць свой узровень ведаў, аргументаваць свой выбар. Калі выказваюцца супрацьлеглыя погляды, пажадана дазволіць кожнаму з вучняў падрабязна выкласці пазіцыю, магчыма, нават арганізаваць кароткую дыскусію. Такі метад дазваляе падцягнуць сярэдні ўзровень ведаў да ўзроўню лепшых, а лепшым вучням удасканаліць свае здольнасці. Гэтая форма заняткаў можа быць асноўнай у выкарыстанні тэстаў і займаць не менш як палову часу.

ПАШЫРАНЫ ПІСЬМОВЫ АДКАЗ на асобныя пытанні можа быць праведзены разам з запаўненнем кантрольных картак. На пытанне, абранае самастойна ці вызначанае настаўнікам, вучань дае разгорнутую пісьмовую аргументацыю, чаму адны сцвярджэнні лічыць правільнымі, а іншыя -- не. Паводле адказаў настаўнік арганізуе дыскусію, сістэматызуе аргументацыю правільных сцвярджэнняў.

ДЗЕЛАВАЯ ГУЛЬНЯ праводзіцца с выкарыстаннем тэста, які яшчэ зусім не знаёмы навучэнцам. Настаўнік называе толькі яго тэму, а потым прапануе сфармуляваць першае пытанне тэста. Калі ўзнікаюць цяжкасці, настаўнік выкарыстоўвае падказкі – і так з усімі сямю пытаннямі. Падчас гульні клас можна падзяліць на некалькі каманд, кожная будзе прапаноўваць свае варыянты пытанняў. Дзелавыя гульні мэтазгодна праводзіць ў гімназіях, ліцэях, на экалагічных гуртках і ў гімназічных класах агульнаадукацыйных школ.

*Хочацца, каб тэсты дапамаглі настаўнікам, прыдаліся на карысць навучання. Я спадзяюся, што разам з газетай "Белавежская пушча" мае прапановы дойдуць да самых аддаленых школ і школак, і я знайду там шмат аднадумцаў. Няхай наш лес будзе вечны пад небам роднай Беларусі!*

**Ад рэдакцыі:** Нагадваем чытачам, што газета штонумар ладзіла публікацыі, прысвечаныя лесу( "*...Перадаю рукапісную кнігу пра лес*", "*Волат са шчодрай багатай душой*", "*Сіла вялікай інэрцыі*" ды інш.) Будзем рады, калі яны прыдадуцца на ўроках. Старыя выпускі газеты "*Белавежская пушча*" замаўляйце ў мясцовых раённых інспекцыях прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, а таксама пішыце, тэлефануйце ў рэдакцыю.

*Фота: Уладзімір Бяліноў*




*Свінне, наеўшыся пад дубам жалудзей,*
*Заснула смагла, пачасалася*
*І так, як іншы меж людзей,*
*Лычом карэнняў дакапалася.*

*Рве карэнне, капае ямы...*
*"Што робіш? – з дуба сокал кажа. –*
*Гэтак зглуміш і дуб самы,*
*Як падкапаеш – ссохне, ляжа!"*

*"Дык што, няхай хоць згіне,*
*Абы мне жалудоў пад'есці,*
*Іх надта любіць свінне", –*
*Захрукала свінне урэшце.*

*Дуб сокалу так гамане:*
*"Свінне свіннёй і заўсягды;*
*Яна не відзе, што на мне*
*Гадуюцца ёй жалуды!"*

# “Хочацца такіх слоў, каб у іх было як мага больш чыстага паветра, птушынага пераразвону, водару лясоў і палёў...”



**Чытачы абмяркоўваюць змест газеты: крытыкуюць, разважаюць, раяць на будучыню.**

### *Паслухайце маю параду*

У мяне ўжо склалася думка пра газету, таму хачу выказаць адну перасцярогу. Не перагружайце старонкі агульшчынай, ведайце меру. Здаецца, вы падаліся ў філасофію і ўжо прыкметна перабралі норму.

Газета мае адметны стыль, але ён часам засланяе нешта істотнае, нашу звычайнасць. Калі вы арыентуецеся на інтэлектуалаў, з імі лягчэй – вас зразумеюць і ўхваляць. Але ёсць катэгорыя людзей, якія складаюць большасць. На іх розум газета “завумная”. Шмат замежных “вучоных” слоў. І мова, далёкая ад “трасянкі”. Я не за тое, каб вы пераходзілі з добрай мовы на беларускую “трасянку”, але трэба пісаць прасцей, больш даступна.

Калі можаце, гэта ўлічыце, паслухайце маю параду. Сам я не страціў цікавасці да газеты, буду яе купляць, паказваць сябрам і знаёмым, бо люблю прыроду і разумею, што гэта такое.

***Віктар Мацюхоў,***
*Бабруйск*

### *Мы, беларусы, не можам паскардзіцца на свой лёс, бо прырода нам дала ўсё, што трэба*

Хачу перш-наперш выказаць удзячнасць за з'яўленне такой газеты як *“Белавежская пушча”*. Выданне, спадзяюся, дапаможа ў пэўнай меры ўратаваць адметную зялёную тэрыторыю, што знаходзіцца ў цэнтры Еўропы і мае надзвычайнае значэнне як для нас, беларусаў, так і нашых шматлікіх суседзяў.

Бачу, газета не толькі густоўна паказвае прыроду, не толькі паэтызуе шырока вядомыя мясціны, але спрабуе ахаваць сваім крылом усе ацалелыя зялёныя куткі нашай Бацькаўшчыны. Гэта надзвычай актуальна, бо настаў час, калі ўжо знікае апошняе. Я не магу сабе ўявіць сваю родную Беларусь без яе векавых пушчаў, без шызых ельнікаў, без сонечных бяроз, грыбных і ягадных мясцінаў, маляўнічых лясных пейзажаў. Лес, не баюся памыліцца, — самая значная расліна, яка ёсць на нашай зямлі. Гэта і “цёплы клімат”, і магутная энергасістэма, і багатая кладоўка вітамінных дароў. Мы, беларусы, не можам паскардзіцца на свой лёс, што ў нас, маўляў, нічога няма. Ёсць лес і ўсё астатняе, што трэба для жыцця. Не хапае хіба толькі шчырых дбайных гаспадароў ды абаронцаў лясных багаццяў.

Сёння добра відаць тыя паследкі, якія пакінула пасля сябе вынішчальная меліярацыя. На працягу цэлых дзесяцігоддзяў маляўнічыя ландшафты брыдка агаляліся – было не пазнаць. Аэрадромы адкрытай зямлі, калісьці затуленыя дрэвамі, кустамі, апынуліся сам-насам з дажджамі і ветрамі. Не адразу, спакваля адчулі недахоп вады і вільгаці нашы лясы. Сотні гектараў пачалі сохнуць, спапяляцца ў агні. Смяротнай аблогай накрыла “зялёныя лёгкія” чарнобыльская атрута. Цяпер ачапляе лясныя абшары яшчэ адна хвароба – смеццезвалкі, якімі літаральна засеяны баравыя ўскраіны.

Пра гэта балюча пісаць. Хочацца такіх слоў, каб у іх было як мага больш чыстага паветра, птушынага пераразвону, водару лясоў і палёў. Так і будзе. Я веру, што новая газета – гэта добры знак, надзея на лепшыя змены. Мне падабаецца воблік газеты, яе раскаванасць і лёгкасць. Добра чытаецца. Хто б ты ні быў – абавязкова знаходзіш сваю запаветную старонку. Трэба аддаць належнае рубрыкацыі выдання, рэжысуры публікацый. Разам з тым газета павінна ўсяляк пазбягаць разарванасці, быць цэльнаю, не засмечвацца – чытач гэта ацэніць, пачне хваліць іншым. Мяркую, для новага выдання такія *“рэцэнзіі”* будуць вельмі дарэчы.

***Лявон Дубоўскі,***
*Мар'іна Горка.*

### *Нічога, што газета не часта выходзіць. Важна, што яна ёсць*

Газета, якую вы так аддана робіце, мне падабаецца. Разумею, што яна вельмі патрэбная. Дакладна ведаю і пра водгукі: бадай, усе, хто глядзеў і чытаў, захапляюцца ладам і зместам (можа, хто-небудзь званіў ці пісаў вам?). Мая парада, каб вы гэтую ніву не пакідалі. І каб вашыя аўтары, такія, як Бышнёў, Івашка, Шкадзінскі, Бахараў, Галубкоў заставаліся з вамі, пісалі больш.

Нічога, што газета не часта выходзіць. Важна ўжо тое, што такая ёсць, і кожны зладжаны выпуск – гэта як падзея, як след, як адбітак часу.

***Сяргей Мільто.***
*Барысаў*

### *Колер травы саступае шэраму асфальтабетону*

Апошні нумар газеты прачытала ад першай да апошняй старонкі. Публікацыі (без выключэння) прасякнутыя адной прачулай нотай – захаваць прыроду Беларусі, яна -- непаўторная, гаманлівая і жывая. І нават *“Падзенне Белавежскай пушчы”* – шчыры, непрыгладжаны маналог – усім даборам эмоцый і меркаванняў засведчыў настойлівае жаданне аўтара захаваць тое, што там засталося.

Хацелася б, каб кожны з нас, гэтак жа як Уладзімір Афанасьевіч Дацкевіч, мог заступіцца за сваю Пушчу ў сваіх бліжэйшых ваколіцах. Усе бачым, што прыроды становіцца менш і менш. Узамен ствараем штучную, тратуарную. А ў двух сотнях метраў памірае азярцо-балацінка, дзе яшчэ нядаўна вудзілі рыбу. Год-два і яго не стане. Знікне. Там пабудуюць гаражы. І голасу ў абарону ніхто не пачуе.

Такіх стратаў сотні і сотні. Гэтак жа — як і новых гаражоў, стаянак, крамаў. Колер травы саступае чорнаму ды шэраму асфальтабетону. Кожны з нас пасобку не здольны рэгуляваць гэты рух, пры якім паядаецца тое, што даўно ўжо недатыкальны запас.

Трэба ўступацца грамадству, экалагічным суполкам. Прыкладаў бракуе, але яны ёсць. Газета павінна часцей і багата пра іх расказваць. Каб усё было бачна – праблема, людзі, дзяржава. У каго якая пазіцыя і на чый бок пахілілася справа. Незалежна ад таго, чым усё скончылася. Важна засведчыць практыку, хай сабе й няўдалую. Трэба вучыцца і вучыць – таму і чытаю вашу газету і шмат чаго скарыстоўваю на ўроках. Вучу любіць і ахоўваць.

***Людміла Калоша,***
*настаўніца,*
*Фаніпаль, Дзяржынскі раён*

### *Мова – чароўны ключык*

Мяне, калі шчыра па-чалавечы, вельмі парадавала мова газеты. Нават кранула. Такая цёплая, жывая, сапраўды беларуская. Тэма прыроды ў кожным нумары неяк вельмі натуральна пераплятаецца з агульным лёсам Беларусі, нацыі, этнасу. І мова ў гэтым спалучэнні – бы нейкі чароўны ключык. Я веру, што газета знойдзе свайго чытача, на яе адгукнецца тая частка грамадства, якая хоча захаваць нашу Бацькаўшчыну прыгожай і ўтульнай.

***Людміла Шастаковіч,***
*рэдактар Беларускага радыё*

### *Шукайце добрых распаўсюднікаў*

З вашай газетай упершыню сустрэўся на семінары ў Стоўбцах (ладзіў Мінскі абласны камітэт прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя). Узяў паглядзець з рук і захацелася сёе-тое прачытаць, асабліва пра грыбы, якія “любяць” расці на лясных смеццезвалках. Прыехаў у Мінск і купіў (спытаў, ці ёсць, і кіяскёрка знайшла ў нейкім загашніку). Думаю, вам цікава пачуць дзве мае ўвагі.

Першая. Больш рэкламуйце сваё выданне, бо яно гэтага заслугоўвае. Рэалізацыя праз кіёскі нічога не вартая, там не разумеюць, што такую газету трэба прадаць хоць крыху з носа. Адным словам, шукайце добрых распаўсюднікаў, — газета стане галаснейшая.

Другое. Рэакцыя на вашу газету вельмі станоўчая. Многія ўдзельнікі семінару пыталіся, дзе яе можна купіць або падпісацца. Асабліва жанчыны. Па-мойму, іх зацікавіла знешняя прывабнасць старонак, нейкая, можа, гульня з чытачом. Лічу, гэта добрая якасць для такой досыць сур'ёзнай газеты як ваша.

***Анатоль Церах,***
*Мінскі раён*

### Лірыка з канверта



*Фота: Васіль Зянько (Стоўбцы)*

*Эдуард Зубрыцкі*

***

У расчыненасць вокнаў і дум
Нібы горкім дымком павявае.
Ліст асенні пакружыць,
А там – не заўважыш – зіма.
Што мы значым у свеце,
Калі вечнасць усіх абаймае,
Насцеж дзверы –
А там,
Апроч цемры, нічога няма?..

Верхнядзвінск,
Віцебская вобласць

***Ад рэдакцыі.*** *Усім, хто выказаўся – шчырае дзякуй! Заўвагі і пажаданні ўлічым. Спадзяёмся на рэкламу нашага выдання ўсімі сродкамі, якія даступныя чытацкаму актыву газеты (вусная “рэцэнзія”, допіс у мясцовую газету, абсталяванне стэнда, ксеракопіі публікацый і г.д.) Будзьце з намі.*

 



# Аслані, Божа, гэты цуд ад хіжага сэрца, ад злога чалавечага вока...

**_Аляксандр Гутоўскі,_**
_экатурыст_

_Фота аўтара._

Лодка-байдарка імкне па лясной рачулцы. Яе бясшумны ход час ад часу інтрыгуе слых. Чуваць, хіба што, як плюскоча, сцякаючы, пад вёсламі вада. Маленькая лясная рэчка – бясконцая чарада ўражанняў. За кожнай новай павароткай душа абнаўляецца, робіцца багацейшая. Колькі гадоў плаваю па Беларусі, столькі ж паўтараю – самае адметнае для цікаўнага вандроўніка можна сустрэць менавіта на гэтых рачулкавых лонях, з якімі ані не параўнаеш вялікія абжытыя рэкі.

Гэты раз мы плывём утраіх па расонскіх азёрах Межава, Чарапецкае, Валькоўскае. А з іх па рачулцы Чарапеціцы “упадаем” у рэчку Нішчу і далей па ёй плывём уніз на поўдзень.З лодкі відаць таямнічы падводны свет: сонна калышуцца ярказялёныя выгінастыя водарасці. Чорныя карчы, здаецца, хочуць схапіць ці прабіць нашу байдарку. На перакаціках каменных градаў блішчыць-бруіцца вадзічка. А там, дзе на мяжы водмеляў і ямаў пад лодку сігаюць чароды вялікай рыбы, душа рыбака нясцерпна трапеча. Памятаю, як аднойчы мой спадарожнік, ахвотны да рыбы, доўга прыкідваў, колькі ж тон яе хавае ў сваіх берагах лясная рэчка, па якой мы тады плылі. Не падавалася ўяўленню... А для мяне, па шчырасці, важна было не тое, што тут можна злавіць, а тое, што ў рэках яшчэ ёсць жыццё. У Чарапеціцы дык водзяцца нават ракі. Радасна на душы. Каб убачыць гэты свет у рэках, у лесе ды пад аблокамі, мы і выбіраемся ў вандроўку па самых “схаваных” мясцінах роднай Беларусі.

Возера Валькоўскае на момант адплыцця падаравала нам сустрэчу з чорным буслом. Відаць, гэты асцярожны птах адчувае сябе тут вольна, калі сярод белага дня кружыў над возерам і над намі. Цішыня, чысціня і спакой дапаўнялі велічны прыгожы лёт рэдкай птушкі.

На рэчцы Нішчы робім прыпынак. Незнаёмым людзям давяраем байдарку і пешшу рушым у напрамку самых паўночных ды патаемных азёраў Расоншчыны. Яшчэ раніца. На ляснóй дарозе-пяшчанцы разглядваем сляды птушак, мышэй, гадзюк і нават воўчага выводка. Яны паспелі да нас і





**_Аляксандр Гутоўскі_** _па адукацыі гісторык. Экатурыст, фотамастак. Займаўся педагагічнай практыкай, працаваў у музеі. Кожнае лета збірае аднадумцаў і выпраўляецца ў падарожжа па Беларусі. Аддае перавагу ціхім куткам ды нерушам паўночна-заходняй часткі краіны. Уражанні ад вандровак захоўваюцца ў шматлікіх фотакадрах, на якіх адлюстраваны чароўны ды разнастайны свет беларускай прыроды._

_Кропку здымак Аляксандр выбірае там, дзе загадае душа і ўражанае вока. Гэта можа быць і непраходнае балота, і сярэдзіна ракі, і бераг маляўнічага возера, назву якога добра ведаюць хіба што мясцовыя жыхары._



_Той, хто трапіць сюды, на гэты бераг, будзе шчаслівы і ўдзячны лёсу. А пешая дарога пад цяжкім заплечнікам падасца дарогаю ў рай._





 

* *бетонныя “выспы” на Віліі (быкі) — здымак злева, ст. 12*
* *на плёсах Нішчы — здымкі пасярэдзіне, ст. 12,13*
* *у чаканні рыбацкага шчасця — здымак унізе, ст. 12*
* *лебедзі на возеры Сьвір, Мядзельскі раён — ст. 13*
* *дамок мастака ў ваколіцах Нарачы — здымак унізе, ст. 13*







машын... Ад мясцовых жыхароў дачуліся пра “дзікія паляванні” так званых “новых” – механізаваныя браканьеры з сабакамі ды аптычнымі прыцэламі быццам вырашылі нічога не пакінуць ад тутэйшых капытных. Дарваўшыся, білі не дзеля мяса, а дзеля пыхі й хіжага імпэту. Вясцоўцы жахаюцца ды спадзяюцца на Божы суд.

Упершыню трапілі на бераг возера Глыбокае. У соснах, высока над вадою самоцяцца могілкі. Прысядзь, падарожнік. Паслухай гэтую цішыню. Адчуй гэты вячысты спакой.

А возера Белае з наваколлем – быццам разгорнутая кніга. Сярод пукатых узгоркаў, у атачэнні светлых саснякоў. Багацце тутэйшага лесу ацэніць хіба што той, хто трапіць сюды, на гэты бераг. Ён будзе шчаслівы і ўдзячны лёсу. А пешая дарога пад цяжкім заплечнікам падасца дарогаю ў рай. Грыбы, ягады і рыба адразу ўвайшлі ў наш трохдзённы рацыён і былі як падарунак з адвечных кладовак прыроды.

Раніцай над возерам убачылі велічную прыгожую птушку. У высокім кружлянні пазналі арлана-белахвоста. Надзвычай прыдаўся бінокль. “Гэта не птушка, а сапраўдны аэраплан”, — не стрымаў здзіўлення хтосьці з нас. Размах крылаў сягаў дзесьці трох метраў. І радавалася, і супакойвалася сэрца: ёсць яшчэ, ёсць у нас такія гордыя, велічныя птахі! Яны тут нараджаюцца і тут паміраюць. Тут ладзяць гнёзды і тут выводзяць патомства. З гэтай думкай я апусціў ад вачэй бінокль. Дваццаць гадоў вандрую па Беларусі, а такая сустрэча была адкрыццём.

Вярнуўшыся, мы зноў паплылі па Нішчы. І зноў – радасць нечаканай сустрэчы. Перад вёскай Сакалішча на адным з ціхіх адрэзкаў рэчкі ўзнялася вялікая белая птушка. Мы пакідалі вёслы і пачалі спрачацца: адмыслоўцы па птушках сярод нас не было. Наступная паваротка – ізноў паказалася белая птушка. Яна паляцела ўніз па рацэ, быццам вабячы нас услед за сабою. Удалося разгледзець яе профіль; цяпер было бачна, што гэта вялікая белая чапля. Нарэшце, трэцяя паваротка рэчкі – і трэці, самы выразны адбітак з памяці. Пра фотаапарат я тады забыўся, глядзеў як зачараваны на цуд дараванага імгнення... Па каменьчыках перакатa, акурат пасярэдзіне рэчкі, малочны выразны сілуэт на цёмным фоне, марудліва рухалася наша белая чапля. Яна, вядома ж, паднялася і паляцела. А мы вельмі доўга – і ўжо кожны паасобку – асэнсоўвалі ды перажывалі ўбачанае. Людзі! Пакуль яшчэ жывыя гэтыя птушкі, рыбы, звяры, матылі, жукі, — ідзіце да іх, вандруйце па жывой зямлі. Іх трэба бачыць на свае вочы, а не з экрана тэлевізара. І акрый, Божа, гэты цудоўны край ад хіжага сэрца ды злога чалавечага вока.

## SUMMARY

***The ecotourist Alexander Gutovski finishes his travel notes with a call: “Human beings! While all these birds, fishes, animals, butterflies, beetles are still alive, go to them and wonder!” Pictures of the author.***



### Канвенцыі

## Наперад, да "старажытных прынцыпаў экалагічна разумных паводзін і маралі"

Пяць гадоў таму, у чэрвені 1992 года ў Рыо-дэ-Жанейра лідэры больш як 100 дзяржаў свету падпісалі *Канвенцыю аб біялагічнай разнастайнасці*, што засведчыла волю народаў гэтых краін да канкрэтных і рашучых зменаў у развіцці. Беларусь таксама падпісала гэты дакумент, прыняла на сябе высокія абавязацельствы захоўваць прыродную разнастайнасць Зямлі.

Пра нашу краіну, якая *"не з`явілася, а адрадзілася на палітычнай карце свету"*, сказаў кіраўнік беларускай дэлегацыі, спікер парламента С. Шушкевіч, які выступіў у Рыо з прамовай. Ён адзначыў "*тысячагоднія традыцыі нашай дзяржаўнасці, нашы старажытныя заканадаўчыя акты*", якія ўжо "*шмат стагоддзяў таму ў форме натурфіласофіі ўсталёўвалі прынцыпы экалагічна разумных паводзінаў і маралі*".

Тым часам пяцігадовы "юбілей" канвенцыі небагаты на здабыткі.



Тэмпы дэградацыі беларускай прыроды не зніжаюцца, а павялічваюцца. Гэта яскрава відаць па нашым лесе, які жорстка эксплуатуецца, высыхае, збядняецца. Толькі 5 % лясоў застаюцца ў спелым узросце і могуць звацца больш-менш багатымі ды разнастайнымі. Аднак і гэтая лічба хутчэй за ўсё завышаная.

Біялагічная разнастайнасць Беларусі застаецца пад пагрозай наступстваў меліярацыі, чарнобыльскай катастрофы, недасканалых тэхналогій вытворчасці, браканьерства ды іншых бядотаў. Адэкватных "*дзеянняў па прадухіленню далейшай дэградацыі прыроды*" на Беларусі не назіраецца. *Уласная інфармацыя.*

** рэшткі вадзянога млына на р. Уша (вёска Макашы Нясвіжскага раёна, 1974)*
*Фота: Валерый Драньчук, "Неруш-прэс"*

### Фотапленэр

## У Белавежскай пушчы – сезон "фотапалявання"

Калі экалагічныя праблемы з кожным годам абвастраюцца і шэдэўраў жывой прыроды становіцца менш ды менш, надзвычай



важна заспець адлюстраваць тое, што ацалела, не адышло ў незваротнасць. Ад папулярызацыі да захавання – менавіта пад такім дэвізам мае распачацца круглагадовы фотапленэр *"Белавежская пушча. Часіны года"*. Ягоныя арганізатары – Музей прыроды і экалогіі Беларусі, Нацыянальны парк і газета "Белавежская пушча" паставілі мэту звярнуць увагу беларускіх фотамайстроў на эстэтычныя і экалагічныя каштоўнасці Пушчы, абнавіць яе вобраз, памагчы захаваць куток першабытнага лесу ў цэнтры Еўропы.

Наступны фотапленэр плануецца ў студзені-лютым, а затым яго удзельнікаў чакаюць запаведныя матывы вясны і лета. Вынікам акцыі будуць выставы ў нацыянальным парку "Белавежская пушча", Брэсцкім педагагічным універсітэце, у Музеі прыроды і экалогіі Беларусі і інш. *Крыніца: "Неруш-прэс"*

** мядзведзічку Белку выпускаюць на ўлонне Белавежскай пушчы 11 красавіка 1938 г.*

*Здымак Яна Карпінскага (1896-1965) — выбітнага вучонага і таленавітага інтэрпрэтатара прыродна-духоўнай спадчыны Белавежскай пушчы.*

### Кнігарня

## Ёсць такая карта!

... а на ёй — сотні мясцінаў і назваў, рознаколерных жылак дарог, рэк і рачулак. Мясцінаў вядомых і невядомых, назваў чутых і нячутых. Дзе ступала і не ступала нага чалавека, што бачыла і чаго не бачыла вока. Карта рэдкая і патрэбная – з поўным даборам звестак пра так званыя "асабліва ахоўныя прыродныя тэрыторыі" Беларусі – помнікі прыроды, заказнікі, запаведнікі, альбо ўсё тое, што не растрэслася, не выбілася, ацалела ў мітрэнзе часу, што ёсць першародным багаццем і славаю нашага краю. Карта (яе поўная назва – аглядна-тапаграфічная), замоўленая Міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя два гады таму і падае надзвычай падрабязны зрэз ахоўных мясцін і аб`ектаў, прыкладам, іхні памер, год набыцця адпаведнага статусу і галоўнае – геаграфічнае асяроддзе, у якім яны знаходзяцца.

Маючы маштаб пяць кіламетраў у адным сантыметры карта дае магчымасць кожнаму скласці свой маршрут, "прайсці" палявымі і нават ляснымі дарогамі, часам "заўважыць" тое, што не дзесьці ў далечыні, за сямю гарызонтамі, а зусім побач, даступнае ў межах аднаго дня і вартае самых нечаканых уражанняў.

Калі вы рамантык, з картай хочацца жыць і марыць. Калі падарожнік – планаваць чарговыя выхадныя ці водпуск. Калі патрыёт – пазнаваць родны край, сваю Беларусь. Зрэшты, не абавязкова куды-небудзь ехаць, каб убачыць на свае вочы заказнік Фаліцкі Мох ці непаўторныя свіцязянскія ландшафты. Асалода ўжо ў тым, што гэтая ці іншая мясціна існуе і што мы, ведаючы пра яе, можам ціха памаліцца за яе заўтрашні лёс і дзень.

Распрацоўшчыкі зместу эколагі П. Лабанок і М.Кудрашова і рэдактары Беларускага картографа-геадэзічнага аб'яднання "Белгеадэзія" зрабілі шмат, каб карта была інфарматыўнай і зручнай, а кожная назва – дакладнай паводле напісання. Варта адзначыць, што выданне зроблена ў беларускай мове, а гэта несумненна сведчыць яшчэ як пра факт ягонай культурнай значнасці. *Уласная інфармацыя.*




### Рэсурсы

## "Чалавечы мурашнік" павінен штогод скарачацца, а не павялічвацца

Знакаміты Жак-Іў-Кусто – французскі акіянограф, аўтар сусветна вядомых фільмаў пра падводны свет лічыць, што на сушы пакуль што *"праблема нумар адзін – перанаселенасць нашай планеты. Каб стабілізаваць колькасць наземнікаў, трэба, каб яна штодзень скарачалася на 350 тыс. чалавек."* Пра гэта страшна й казаць, але наша становішча надзвычай пагражальнае, даводзіць Кусто, — працэс ідзе ў адваротны бок. *"Кожныя дзесяць гадоў наш чалавечы мурашнік павялічваецца на колькасць новых жыхароў, роўную насельніцтву Кітая."* Тым часам, заўважае Жак-Іў-Кусто, з 5,7 мільярда жыхароў Зямлі ў дапушчальных умовах жывуць менш як 2 мільярды (зважаючы на шалёныя тэмпы росту насельніцтва, лічба 5,7 млрд на сённяшні дзень не можа быць дакладная – *рэд.*).

Рэсурсы планеты абмежаваныя. Ёсць мяжа, якую не след перавышаць, існуе парог населенасці, які пераступаць небяспечна, — рэзюміруе знакаміты Кусто і *часопіс "Кур`ер ЮНЕСКО"*

### Экаапека

## "Жывы долар" дапамагае жывой прыродзе

1588 замоваў ад даследчыкаў, якія працуюць у прыродных лабараторыях былога Саюза, было пададзена на конкурс Інстытута *"Адкрытае грамадства"* ў Маскве (фонд Дж. Сораса) *"Падтрымка рэгіянальных даследаванняў па біяразнастайнасці"*. Стыпендыі (500 долараў кожная) атрымалі 277 пераможцаў. Сярод іх і шэсць навукоўцаў з Бярэзінскага біясферната запаведніка (Лепельскі раён Віцебскай вобласці).

Хоць гэткім чынам, дзякуючы шматлікім міжнародным дабрачынным арганізацыям, шматгадовая праца даследчыкаў экалагічнага накірунку знаходзіць апеку і заахвочванне. Праўда, браць удзел у конкурсах, семінарах ды канферэнцыях можна тады, калі Беларусь не будзе адрэзанаю ад свету. Прынамсі, інфармацыйна. *Крыніца: "Неруш-прэс".*

### Акцыі

## Сігнал трывогі на пляцы Моцарта

Практыка "зялёнага" руху дала свету мноства прыкладаў пратэсту, якімі абаронцы навакольнага асяроддзя спрабавалі прабіць сцяну раўнадушнага маўчання і згоды, сказаць так, каб пачулі і зразумелі іншыя суайчыннікі. **На здымку** адна з такіх акцыяў – "зялёныя" Бона (Германія) пратэстуюць супраць забруджання наваколля аўтамабільным ламаччам. Апошняе і стала галоўным "будаўнічым матэрыялам" для ўзвядзення шматпавярховых пабудоў-монстраў. І ўсё гэта размясцілася не дзе-небудзь, а ў



цэнтры горада, на слынным пляцы Моцарта, акурат "на вачах кампазітара". Жалезнае шалупінне ды іншае плюгаўства, сцягнутае "зялёнымі" з месцаў захавання аўтаадходаў, гучыць папераджальным сігналам на шляху цывілізацыі. Інерцыя безразважнага спажывання і пяшчотнае сола скрыпкі – у такім кантрапунксе і застала пляц Моцарта ў Боне экатурыстка з Мінску *Таццяна Захарына. Крыніца: "Неруш-прэс".*

## Жыццё і смерць

### Дрэвы паміраюць, легенды застаюцца...

Ад неразлучнай пары – дуба і сасны непадалёку ад Нясвіжа, якія перапляліся ў абдымках і на працягу дзесяцігоддзяў увасаблялі жывую легенду пра вернасць кахання, засталася зялёнаю толькі палавіна. Сасна засохла, асыпаўшы долу іголкі.



*Здымак з фотаальбома "Нясвіж", 1995*

Дзесьці на пачатку 80-х гадоў каля шашы Гародзей - Нясвіж побач з дрэвамі з'явілася рытуальная альтанка. Сюды прыязджалі маладыя пары з навакольных вёсак, каб пакланіцца дрэвам, пакратаць кару, пасядзець у цянётах.

Аднак нават сёння сцэна кахання выглядае па-свойму прыгожай: дуб як бы трымае дужым целам нежывую сасну, атуляючы яе ценем сваёй парыжэлай кроны ды нашэптваючы словы журбы і асенняй самоты. Можа, гэта апошняе прызнанне, якое дуб не паспеў сказаць сваёй спадарожніцы?
*Крыніца: Неруш-прэс.*

## Супольнасць

### Чыстая прадукцыя па нарвежскай праграме

Яшчэ адна міжнародная праграма бярэ пачатак на Беларусі. Мерканы эфект – кваліфікацыя дыпламаваных інжынераў і кіраўнікоў вытворчасцяў беларускіх прамысловых прадпрыемстваў будзе значна больш адпавядаць задачам эканоміі рэсурсаў і вытворчасці экалагічна чыстай прадукцыі.Праграму распрацаваў Саюз дыпламаваных інжынераў Нарвегіі, які ўлічыў досвед розных краін і ўжо паспеў "абкатаць" яе ў Польшчы, Чэхіі, Славакіі, Расіі ды іншых краінах.

Паміж сесіямі навучальнай праграмы, разлічанай на паўгода, слухачы будуць выконваць дамашнія заданні і рыхтаваць дыпломную работу, а пасля паспяховай абароны атрымаюць права самім удзельнічаць у праграме "Чыстая вытворчасць". Найбольш старанныя навучэнцы атрымаюць магчымасць прайсці стажыроўку ў Нарвегіі. Каардынуе праграму на Беларусі грамадская арганізацыя ЮНЕПкам (Беларускі нацыянальны камітэт садзеяння праграме ААН па навакольнаму асяроддзю).
*Уласная інфармацыя.*

## Апакаліпсіс

### Ці паўстане "Сцяна памяці" ахвярам Чарнобыля ў гэтым стагоддзі?

Беларуская асацыяцыя чарнобыльскіх арганізацый *"26 красавіка"* звярнулася да грамадзян Беларусі, *"у кім не згаслі пачуцці спагады, памяці, сыноўняга абавязку"* перад героямі ды ахвярамі Чарнобыля, з просьбай дапамагчы ў распачатай працы па праектаванні і будаўніцтву мемарыяльнай *"Сцяны памяці"*. Гэты незвычайны помнік, як плануецца, мае паўстаць на скрыжаванні сталічных вуліц Карастаянавай і Бангалор.

Сцяна стане месцам увекавечання ўсіх пацярпелых, незалежна ад іхняга ўзросту, веравызнання, прафесіі. Паводле праекта, запланавана і месца, куды запішуцца імёны грамадзянаў і назвы арганізацый, якія дапамогуць пачэснай справе. Ахвяраванні просьба пералічваць на рахунак №3015000000600, *"Беларусбанк"*, філіял № 521, код 287 з адзнакай "На будаўніцтва "Сцяны памяці".
*Крыніца: Неруш-прэс.*

## Кветкі раю

### Сагрэйцеся кавай з цыкорыі

Яна прыкметная з вясны да восені – высокая, кусцістая, сцяблiны ўквечаныя блакітнымі банцікамі знізу даверху. Гэта *цыкорыя, цукора* (або *мацаўнік, падарожнік*, паводле слоўніка Зоські Верас) – расліна, якую часта сустрэнеш дзе-небудзь у ваколіцах каля дарогі, у лесе ці ў лузе.

Найбольш прыдаецца цукора сваімі карэннямі. Яны здавён цудоўна замяняюць каву і з'яўляюцца добрым дадаткам да сапраўднай аравійскай. Капаць гэты скарб можна позняй восенню ці вясной – расліну лёгка пазнаеш па сухім націнні, што тырчыць з агалелай зямлі.

Пакуль да вясны, паспрабуем сагрэцца кавай з цыкорыі. Спачатку карэньчыкі трэба добра памыць, парэзаць на кавалачкі таўшчынёю не больш за 1 см, пасля сушыць пры тэмпературы 100° С 10-12 гадзін, а потым пасмажыць да колеру натуральнае кавы. Змалоць, заварыць кіпетнем.

З расліны робяць таксама смачныя салаты. З яблыкамі, чырвоным перцам, зялёным гарошкам, салёнай і квашанай капустай. Маладыя атожылкі можна смажыць, варыць, тушыць і запякаць у цесце з бульбай, яйкам, сырам.

Вось *два салатныя рэцэпты:*

*200 г маладых атожылкаў цыкорыі добра памыць, парэзаць на кавалачкі (2-3 см), пасаліць і тушыць з 10 г маргарыну 20 хвілін. Калі крыху астыне, пасыпаць крошывам пятрушкі.

*100 г каранёў цыкорыі адварыць у падсоленай вадзе, здрабніць, дабавіць 100 г нарэзанай скрылікамі адваранай бульбы, пасаліць па смаку, даць 15 г алею.

Каштуйце! Вельмі пажыўна.

# Вазьмі як дар, вярні з паклонам !

*Чалавеку трэба няшмат,*
калі ў прыроды
не браць апошняе,
а ўсяляк старацца ахаваць
яе жыватворныя крыніцы,
асяродкі
яе міласэрнага дару.

*Чалавек не робіць памылкі,*
калі бярэ ў прыроды ашчаднай
ды ўдзячнай рукою.

*Прырода помсціць*
за памылкі тады , калі
гэтая рука чыніць гвалт і разбой.

*Мы працягваем руку на партнёрства*
з тымі, хто памятае пра
сапраўднае партнёрства з прыродай.

*Сумеснае беларуска-літоўскае прадпрыемства "Прагрэс" (Гродна)*
*Фірма "Terset-west" (Брэст-Вычулкі)*

**Вы падзяляеце прынцып ашчаднасці прыродакарыстання і гатовыя падпісацца пад гэтым невялічкім "маніфестам"? Замоўце сваю пазіцыю, назваўшы сябе, – і ў наступным нумары Ваша таемнае стане яўным. Будзьце ўдзельнікам нашае акцыі ў падтрымку сапраўднага партнёрства з прыродай!**

Зялёнае агенцтва "Неруш-прэс"

# НАШЫЯ СЛОВЫ! OUR WORDS!






*Уладзімір Басальга. З серыі "Ініцыялы"*

## З беларускіх выслоўяў

### "Каб з таго семечка ды насеннечка"

(вычэнні)

***Будзь багаты, як зямля!***
***Каб вам вялося!***
*(на полі)* ***Корабам сонца, сітом дождж***
*(на гародзе)* ***Радзі, божа, на камені і пад каменем***
*(у лазні, ідучы з лазні)* ***Каб табе паздаравела, палепшала!***
*(тое ж)* ***Крэпкага духу мужом пачэсным!***
*(тое ж)* ***Паздароў, божа!***
*(тое ж )****Шаўковы венік, лёгкі дух!***
(пры зборах на дарогу) ***Каб цябе ліха ў дарозе мінавала!***
*(тое ж)* ***Рушнічком дарога!***
*(тое ж)* ***Пухам дарожка!***
*(тое ж )* ***Сакалінага лёту!***
*(тое ж)* ***З богам па марозцу!***
*(на пахаванні і памінках)* ***Няхай ён сваім дзецям сніцца!***
*(тое ж )* ***Пухам яму зямелька!***
*(тое ж)* ***Светласць векавечная няхай яму свеціць!***
*(пры чханні)* ***Будзь здароў на ўвесь год, як калядны лёд!***
*(тое ж )* ***Каб быў здаровы, як дуб скарбовы!***
*(тое ж )* ***Вялікі расці!***
***Дай бог пахвараць у добрым здароўі!***
***Каб добрыя людзі на камені і пад каменем разжываліся, а ліхія і на добрай раллі не раслі.***
***Каб вам яшчэ многа гадкоў смачна спалася і лёгка ўставалася!***
***Каб з таго семечка ды завялося насеннечка!***
***Каб ніколі рукавок не быў за ручнічок!***
***Каб цябе бог любіў!***

### "А мой ты каласок"

(ветласць, ласкавасць)

***Будзьце ласкавы!***
***Бярозухна ты мая белая!***
***Бабулька мая, галубка мая!***
***Дзеткі мае, галубяткі мае!***
***Дзякаваць вам!***
***Дзякуй вам за ваша добрае слова!***
***Крывіначка ты мая!***
***Мая ж ты галовачка!***
***Мая ты саколка!***
***Мая ты зязюлька, як жа ты гаруеш!***
***Раднюсенькі мой, мілюсенькі мой!***
***Мой ты каласок!***
***Сонейка маё залаценькае!***
***Сыночак-яваручак мой!***
***Яблычак мой салодзенькі!***
***Проша ў хату!***
***Сядайце, госцікі, за стол!***
***Я й за гарою вам пакланюся***

### Замова ад гора

***Кругам, кругам, лужочкам да цераз лес, міма трох бяроз, міма трох сосенак, міма трох дарог, міма рэчанькі, міма горачкі пайдзі, маё горачка, ізыйдзі. Ты мяне лепш мінай, у хату не заглядай, не туліся да мяне.***


SUMMARY

*The premiure of this section, which will mainly cover subjects like the beauty of the Belarusian language, its wealth of associations, and the language's links with Nature. Here we include a painting by Vladimir Basalyga from his Initials series.*


### Стаяла бяроза пры дарозе...

(з народнай лірыкі)

*Стаяла бяроза пры дарозе*
*Пры дарозе.*
*Ніхто да той бярозачкі не даедзіць,*
*Не даедзіць.*
*А сабраўся раз малойчык ды дабраўся,*
*Ды дабраўся.*
*- Пусці, пусці, бярозачка, начаваці,*
*Начаваці.*
*- А не пушчу, удал малойчык, недзе спаці,*
*недзе спаці.*

*- Я высплюся ў бярозкі на лісточку,*
*На лісточку,*
*Як у роднай матулячкі пры бачочку,*
*Пры бачочку.*
*Я выспдюся ў бярозачкі на сучочках,*
*На сучочках,*
*Як у роднай матулячкі на ручочках,*
*На ручочках.*
*Я выспдюся ў бярозачкі на карэннях,*
*На карэннях,*
*Як у роднай матулячкі на каленях,*
*На каленях.*

***Песня запісана ў вёсцы Альсевічы (Мядзельскі раён)***


БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА

*Заснавальнік і рэдактар Валерый Дранчук*

- прыродалюбная асветна-публіцыстычная беларуская газета
- выдаецца па ініцыятыве інфармацыйнага зялёнага агенцтва "Неруш-прэс"
- год выдання трэці, 1997 №4 /7/
- рэгістрацыйны нумар 125
- наклад 2500 асобнікаў, кошт дамоўны

Падпісана ў друк 14.10.97.
Пры перадруку спасылка на газету абавязковая
Адрас для допісаў: 220088 Мінск, Іванаўская, 38-16. Тэл. 236-50-76
3. 2248.

Аўтары маюць права вольна выказваць свае меркаванні і нясуць адказнасць за дакладнасць пададзеных звестак.
*Газету заўсёды можна набыць:* Мінск: універмаг "Беларусь" (2-гі паверх, секцыя "Канцтавары"), "Гандлёвы Дом на Нямізе" (кніжна-газетныя шапікі", 1-2 пав.); Гродна: кніжная крама "Раніца"; Нясвіж: крама "Кнігі". *Падпіска з любога месяца.*

"BIELOVEZHSKAYA PUSHCHA" Belarussian Nature-Lowing Newspaper. Motto: With Lowe To Lap. Published at the initiative of the Information Green Agency "NERUSH-PRESS"
Contact:220088 MINSK Ivanovskaya 38 - 16 Phone (0172) 236-50-76